# Пах волі

Саша очень любит книги про героев и про месть,
Саша хочет быть героем, а он такой и есть.
Саша носит шляпу, в шляпе страусиное перо,
Он хватает шпагу и цепляет прямо на бедро.

*Віктар Цой, «Саша»*

Саша гадаваўся без бацькі. Як падавалася нам, дванаццаці-трынаццацігадовым, гэты факт, пры ўсіх сваіх мінусах, меў адзін вельмі вялікі й неаспрэчны плюс: ступень свабоды, якая нам і не снілася.

Сярод мінусаў галоўным было татальнае безграшоўе. Сашава маці, што працавала, здаецца, рэстаўравальніцай у мастацкім музеі, у час, калі краіна працягвала жыць па прынцыпе «скажы, дзе працуеш, і я скажу, што крадзеш», ледзь дацягвала ад авансу да заробку. Праўда, амаль ніхто з нас, хлопчыкаў з сем'яў шараговых ітээраў, работнікаў розных НДІ, заводаў, сфераў харчавання й сацыяльнага абслугоўвання, не раскашаваў. За вельмі рэдкім выняткам.

Газеты стракацелі выкрывальніцкімі нарысамі пра наменклатуршчыкаў, што панабудавалі шыкоўныя фазэнды пад Менскам у час, калі народ пухне з голаду, пра фірмачоў, што бессаромна нажываюцца на вачах у чэсных працаўнікоў, пра валютныя спекуляцыі, пра з гразі ў князі ды іншую трасцу... Бацькі

на кухнях абмяркоўвалі ўсё гэта, лаялі фірмачоў і спекулянтаў, чыталі «Огонёк», выпісвалі «Новый мир» і «Химию и жизнь», гадзінамі слухалі Ельцына й Кашпіроўскага, чакаючы ад іх нейкага цуду. Да з'яўлення ж цуду ўласнага заставаліся лічаныя месяцы.

Мы ж, пакаленне джынсаў «Мальвіна», гуртоў «Наутылус» і «Крэматорый», магнітафонаў «Інтэрнэшнл» і камп’ютараў «Байт», ведалі два адносна хуткія спосабы «азалаціцца» — *памыць* альбо *павартаваць*. Адразу ж пасля школы мы кіраваліся наўпрост да адзінага ў ваколіцах рэстарана, дзе акурат на абед з'язджаліся крутыя па тых часах іншамаркі альбо, на скрайняк, апошнія «Лады». «Памыць ці павартаваць?» — такім пытаннем мы віталі наведнікаў. Згода на «памыць» успрымалася як сапраўднае шчасце й здаралася дужа рэдка. На «павартаваць» — хутчэй як міласціна. Найбольш частым адказам было грэблівае маўчанне альбо, як варыянт, штосьці накшталт: «Не надо. Но если с машиной что-то случится, я тебе глаз на ж*пу натяну».

Саша ніколі не *працаваў* з намі.

Тыя кішэнныя грошы, што выдаваліся бацькамі «на булачку», чым далей, тым меней скарыстоўваліся па прызначэнні. Яны ішлі ў «абшчак», і на іх таму з нас, хто выглядаў самым дарослым, мы даручалі набыць пачак цыгарэт альбо, зрэдку, — парнаграфічную літаратуру, якая запоўніла тады паліцы кнігарняў. Абгорнутыя ў непразрыстую падручнікавую вокладку, гэтыя кнігі чыталіся па чарзе; той, хто чытаў першы, падкрэсліваў чырвоным стрыжнем патрэбныя мясціны. Дзеля канспірацыі мы называлі гэта «геаметрыяй». Калі падыходзіла чарга, ты казаў: «Дай геаметрыю пачытаць».

Саша «геаметрыю» не чытаў.

Цыгарэты. Гэтае страшнае слова, якім нас палохалі ледзь не з садка. Так, гэта быў забаронены й, адпаведна, дужа салодкі плод. П'янлівы смак і пах першых сігаў згадваецца з вастрынёй, параўнальнай са згадкай мо толькі пра першую выпадкова-спантанную эякуляцыю...

У адрозненне ад нас, Саша паліў па-даросламу. І крышку пазней, калі ў яго выявілі парок сэрца, — кінуў. Таксама па-даросламу, з ломкай ці чымсьці падобным.

Зрэдку, можа раз на паўгода, Саша сустракаўся з бацькам. Пасля гэтых сустрэч ён мог зрабіцца ўладальнікам «Байта» альбо «Інтэрнэшнла». Альбо, бывала, — недзіцячай сумы грошай. Гэтыя грошы ішлі выключна на ягоныя ўласныя патрэбы, і нават калі ў маці не заставалася ні капейкі, яна не звярталася да яго па фінансавую дапамогу. Хаця — хто цяпер можа з пэўнасцю пра гэта сказаць?..

Калі табе трынаццаць, калі ты раптам у пэўны момант пачынаеш бачыць і адчуваць усё па-іншаму, калі свет паўстае перад табою стракатай гамай гукаў, пахаў, перажыванняў, спакусаў і г. д. — зрэшты, можна не працягваць. Гэты пяшчотны ўзрост шмат разоў апісаны да нас іншымі спыняльнікамі імгненняў... Але калі табе трынаццаць, ты яшчэ нічога не ведаеш пра сябе, пра тое, хто ты й навошта. Ты не аналізуеш. Жывеш сабе й жывеш. А вось Саша, здавалася, ведаў.

Мы любілі прыходзіць да яго ў госці. Сашава маці не была ў захапленні ад гэтых частых візітаў. Яна ніколі не распытвала пра вучобу ці пра нешта з кола падлеткавых зацікаўленасцяў. Але асабліва й не замінала гэтым візітам.

Сашаў пакойчык, адгароджаны ад матчынай паловы сценкай з кардонных яйкавых латкоў, быў сакральным месцам. Тут захоўваўся ўзорны парадак, і сюды не запрашаўся абы-хто. Сам факт дазволу на госці ўспрымаўся як гэткі акт ініцыяцыі.

Тут былі ўсе атрыбуты, неабходныя для культавае пабудовы. Са сценаў пазіралі боствы, на падваконні дыміла духмянасць. Дзесьці ў сярэдзіне пакоя, з люстры, на вышыні Сашавага росту звісаў званочак. Маленькі рыбацкі званочак, што выкарыстоўваецца для лоўлі на донку. Калі ў гаспадара пыталіся, навошта тут гэта, ён моўчкі падыходзіў і махам роўнай нагі (не адрываючы пятку ад падлогі) паказваў — навошта.

Што да бостваў, то галоўнае месца на яйкавай сцяне адводзілася каляровым выявам кітайца, імя якога тады дарэмна не вымаўлялася, а цяперака хіба падзабылася. Яго агіяграфію ва ўсіх дэталях ведаў кожны з нас. Найбольш нам падабалася яго дзіцячая мянушка — Маленькі Дракон. Маленькі Дракон узнёсся ў трыццаць тры гады, пакінуўшы па сабе вучэнне, назву якога таксама не будзем згадваць дарма.

Ён быў выяўлены ў кананічных паставах, напружаных абарончых ці ўдарных атакавальных, з нунчакамі, узнятымі да вачэй, у скачку... Гэта было вярхоўнае боства. Бог-айцец. З супрацьлеглай сцяны на яго пазіраў «сын». Той меў кароткае карэйскае прозвішча і, як і належыць, быў страшэнна падобны да бацькі. Яго ўзнясенне адбылося ўжо на нашых вачах. На кніжнай паліцы стаяў яго «абраз» у рамцы з чорнай стужкай. Сярод яго атрыбутаў былі чорная акустычная гітара альбо белая электрычная, запаленая цыгарэта, чорная кашуля... Вядома ж, на свае сцены я не наважваўся вешаць выяваў бoства (тым

больш з цыгарэтай!); мой пакой аздабляў сціплы плакацік, з якога сувора пазіраў будучы губернатар Каліфорніі...

Сашу я шмат чым абавязаны. У прыватнасці, без яго я наўрад ці даведаўся б, што шляхі да асалоды не абавязкова звязаныя з працэсам паверхневага трэння. Саша слухаў «Мэдвін гудал» і тонамі паглынаў кнігі фэнтэзі. Узімку, нават у моцныя маразы, ён апранаў лёгкую асеннюю куртачку. Магчыма, ён проста не хацеў марнаваць свае асабістыя сродкі на пухавік, але падносілася гэта як загартоўка. У адрозненне ад большасці з нас, ён не застаўся вучыцца ў дзясятым класе, а пайшоў працаваць. Зрэдку мы сустракаліся ў пераходзе, дзе ён гандляваў індыйскімі духмянасцямі, касетамі й духоўнай літаратурай. Дзе ён цяпер і што робіць, не ведаю ні я, ні сацсеткі.

...Пасля розныя *вехі маёй біяграфіі* асвечваліся рознымі першымі-знакавымі-пахамі (незабыўна шчымлівыя водары жанчыны, бульбы фры, першага свежараспакаванага мадэма, кіславаты пах дзіцячых экскрэментаў у падгузніку...). Але тады, у дванаццаць ці трынаццаць год, у Сашавым сакральным пакоі я зведаў яшчэ адзін пах.

Рэч у тым, што ў іх з маці была дамоўленасць: усю хатнюю працу, звязаную з уласнай жыццядзейнасцю, — мыццё посуду, гатаванне ежы — Саша выконваў сам. Сюды ж, натуральна, уваходзіла і пранне сваёй бялізны. Гэта быў кошт самастойнасці, даросласці. Так бы мовіць, кошт незалежнасці... У той дзень, зайшоўшы ў яго пакой, мы не адчулі знаёмага тонкага водару сандалу. Яго перабіваў рэзкі смурод. Маці дома не было, а пасярэдзіне пакоя стаяў пластмасавы таз, у чорных водах якога плавалі Сашавы брудныя скіслыя шкарпэткі, майкі ды май-

ткі. Некалькі дзён таз стаяў у лазенцы — чамусьці ў Сашы ўсё не даходзілі да яго рукі — пасля чаго маці, пэўна, гэта надакучыла, і яна перанесла яго ў сынаву палову. У мэтах большае нагляднасці...

Саша, нічога не сказаўшы, узяў таз і пайшоў у ванны пакой. А я застаўся ў «храме», сам-насам з яйкавымі сценамі, юнацкімі «абраз*а*мі» ды агідным пахам нявымытае бялізны — Пахам волі.

## Гледачы

> Дэкан Свіфт наняў актораў, каб тыя неслі людзям яго думкі. Але наш губернатар выявіўся хітрэйшым — ён наняў гледачоў...
>
> *З кінафільма «Дом, які збудаваў Свіфт»*

У двары патыхала восеньскай цвіллю. Дрэвы стаялі амаль голыя, і, адпаведна, лісця пад імі было па шчыкалатку (каму — дрэвам? — *Заўв. рэд.*).

У неасветленым двары, па выцвілым лісці каталі дзяўчо. У апошнім сказе процьма алегарычных недакладнасцей. Бо насамарэч дзяўчо білі. Моцна. Ёсць у братняй мове слова, якое б больш ёміста перадало сэнс. Нават не адно, але чорт з імі, словамі, і з ёй, мовай... Дый ці «дзяўчо»? Па ўзросце — так. Але толькі па ўзросце...

Сяржук з жонкаю йшоў па парку. Там, як ні парадаксальна, была гэткая ж карціна, што і ў двары (у сэнсе, лісце). Яны вярталіся дахаты як людзі, для якіх не было, папросту не магло існаваць нічога па-за імі й тым, што ў іх. Гэтае апошняе дэ-факта знаходзілася (то бок рухалася, харчавалася, а калі каго цікавяць дэталі — выбудоўвала свой косны мозг) ва ўлонні, але, далібог, Сяржук таксама пачуваўся цяжарным.

Прынамсі, жорсткі жончын таксікоз, відаць, часткова перадаўся й яму (як гэта часта здараецца з хворасцямі тых, каго любіш)...

Яны зайшлі ў двор, і жонка вымавіла: «Божа...» — «Хадзем, хадзем», — з ненатуральнай бадзёрасцю сказаў Сяржук.

Яны ўвайшлі ў пад'езд, падняліся на сямнаццаць прыступак — першы пралёт, дзе вакно — і жонка сказала: «Пачакай. Трэба. Вярнуцца». — «Так», — адказаў ён, але спярша, з хвіліну, яны глядзелі з акна на гэты мортал комбат.

(Трэба сказаць, што некалькі жыхароў таксама назіралі за збіццём — з вокнаў, з гаўбцоў. Палілі, глядзелі...)

Дзяўчо каталі па лісці, з кута ў кут, ад сценкі да сценкі гэтага абгароджанага ліпамі, клёнамі ды каштанамі двара-пакоя, і зразумець тое, якія вялікія адлегласці пераадольвала цела пасля чарговага ўдару, можна было па хрыплых і кожнага разу ўсё менш упэўненых воклічах ахвяры. Дэталяў у цемры разабраць было нельга. Толькі цені. Удар — храбусценне лісця (ці костак?) — вокліч...

Сяржук з жонкай спусціліся й падышлі да бардзюра — мяжы, што раздзяляла пляцоўку ды асветленую едкімі пад'ездавымі ліхтарамі частку двара. Біў адзін, астатнія моўчкі стаялі. Той, які біў, часам каментаваў, за якую правіну наносіцца ўдар.

Яны пазналі ахвяру. Найперш па голасе. Гэта была дзяўчынка-падлетак, што часцяком сядзела на лаўцы каля «сіняга» пад'езда, у адной з «сініх» кватэраў якога і жыла разам з (не будзем казаць з якой) маці. Так ужо нейк склалася, што ў гэты пад'езд перабраліся ўрэшце ўсе «сінякі» хрушчоўкі (яны ж алканаўты, булдосы, аматары вадкасці № 2 і г. д.). На дзвярох

гэтага пад'езда, у адрозненне ад усіх астатніх, не было дамафона — яны былі гасцінна расхінутыя і ўдзень, і ўночы. Як, дарэчы, і большасць паштовых скрыняў, якія ў лепшым разе былі падвязаныя дротам ці падлепленыя скотчам. Нягледзячы на выгоднае размяшчэнне дома, шэраг кватэраў пуставала, паколькі чалавек, як вядома, смяротны. І не існавала такога, нават чорнага, як сумленне летувіскага мытніка, рыэлтара, які б прымусіў кагосьці туды засяліцца. Тыя ж нешматлікія нармалёвыя *(тут пальцамі робіцца двукоссе ў паветры)* жыхары, што заставаліся ў пад'ездзе... Зрэшты, цяпер гаворка не пра іх.

Такім чынам, там (на лісці) была дзяўчынка з сіняга пад'езда. Сяржук, стараючыся рабіць гэта ўпэўненым нізкім голасам, запытаў у накірунку пляцоўкі: «Что вы делаете?!» Яму адказалі: «А ты чё здесь делаешь?» На гэта ў яго адказу не было. Разам з жонкай яны адышлі да лаўкі (дзе лямпачка)... «Трэба выклікаць міліцыю», — сказала жонка. «Так. Патэлефануй». Ён не хацеў, каб жонка бачыла, што ў яго падрыгваюць пальцы.

Покуль жонка чакала адказу апаратаркі, ён, каб нешта рабіць, вярнуўся да бардзюра. Ахвяра, мабыць, добра ведала таго, хто яе б'е: «Ну всё, бля, — скавытала яна, — теперь я точно в ментовку заявлю», — і атрымоўвала новы ўдар. Да Сержука звярнуўся хтосьці з назіральнікаў: «Всё нормуль. Брательник сеструху воспитывает. А хто ты ваще такой?..» Тым часам сямейнае выхаванне працягвалася...

Ён вярнуўся да жонкі. «Выклікала?» — «Так, сказалі, нарад выехаў». — «Ну, то хадзем?» Яны падняліся ў кватэру. «Пастаў імбрык. Я пайду выкіну смецце. Дарэчы, ты прозвішча называла?» — «Так». — «Дар-

ма». — «Глядзі там, калі ласка, асцярожна...» — гэта ўжо ў зачыненыя дзверы.

Сяржук паставіў закручаны пакет са смеццем каля лаўкі й прысеў. «А можа, і сапраўды нармалёва? Можа, хоць мазгі ёй трохі ўправіць», — не падумаў, а чамусьці прамармытаў ён...

...З дзяцінства яго выхоўвалі абаронцам *(радзімы, малодшай сястры, футбольнае брамы... — патрэбнае падкрэсліць)*. Да пэўнага моманту ён быў перакананы, што гэтак жа і з усімі... Гэты пэўны момант надышоў у другім класе. Тады настаўніца выйшла кудысьці пасярод урока, пакінуўшы класу колькі хвілінаў на шаленства. Як толькі дзверы за ёй прычыніліся, галоўны двоечнік і хуліган *(адкрыць/закрыць двукоссе)* з прозвішчам С*а*дзін, якое цалкам адпавядала яго садысцкай натуры, ускочыў з месца й пачаў корпацца ў торбачцы настаўніцы. Тады Сяржук, як гэта і належыць герою, падышоў да адмарозка й вырваў торбу. Садзін, які быў на галаву вышэйшы і на парадак шырэйшы, з цікавасцю паглядзеў на Сярожку: «Ну, пойдём. Выйдем». Яны выйшлі. Садзін адышоў у канец пустога калідора, разбегся і з усяе моцы наскочыў на суперніка. Яны ўпалі, і Садзін, вядома ж, апынуўся зверху. Далей, седзячы на грудзёх і прыціснуўшы рукі да падрапанага паркету, ён распавёў, што мог бы зрабіць з ім далей («бычок», галавой аб падлогу, вочы...). «Ну, что, понял?» — пасля гэтай вучэбнай дэманстрацыі сілы запытаўся хуліган. Сяржук, вядома, «понял» (і дзякуй богу, што ніхто з класа ўсяго гэтага не бачыў)...

Пасля ён быў сведкам шматлікіх падлеткавых боек — асабліва ў піянерлагерах, дзе ў лайт-рэжыме буяў прынцып вайсковае дзядухі, які заахвочваўся кіраўніцтвам гэтых установаў, часцяком — былых вай-

скоўцаў. І заўжды, калі кагосьці «апускалі», з'яўлялася гэтае... так бы мовіць, апраўданне жорсткасці. Не заўсёды нават прамоўленае. Нібыта самамэтай была не бойка альбо доказ уласнае крутасці, а — нейкае сцверджанне вышэйшае праўды... І калі нейкага хлопчыка, які чымсьці вытыркаўся з агульнае масы, змушалі станавіцца на калені пасярод лагернае палаты на вачох ва ўсяго атрада, чыйсьці ялейны галасок соладка намармытваў на вушка: «Усё нармалёва, усё нармуль...»

Сяржук назіраў, як пры набліжэнні патрульнае машыны хлопцы нетаропка рушылі прэч, пакінуўшы дзяўчо на лісці. Гледачы вызвалілі гаўбцы. *(Гаўбцы! Заслона.)*

Яны пілі гарбату, і жонка хітнула ў бок акна, за якім у выцвілым лісці па шчыкалатку стаялі, аб нечым перамаўляючыся, дрэвы, і запыталася: «І што з гэтым усім рабіць?» Сяржук, зірнуўшы на яе жывот, вымавіў: «Рабіць сваю справу. Каб нас было болей. Чым іх». — «Так. Сваю справу. Але яна, — зноўку ківок у бок двара, дзе ў сметніках курчыліся бычкі, а сярод лістоты — цела трынаццацігадовай дзяўчыны, — таксама будзе. Рабіць справу...»

*2009*

## Сын палка

«Ну не выкідаць жа ўсё гэта», — звыкла думаў К., разграбаючы стосы газетаў, што паназбіраліся пад камп’ютарным сталом. Збольшага тое быў розны, так бы мовіць, *агітпроп*, які К. разы два на год, падчас перадкаляднай ды перадвялікоднай генеральных прыборак, раскідваў па скрынях суседніх дамоў. Без нейкае сістэмы й думкі «вось прачытаюць, і на іх сыдзе прасвятленне». Не, ніякіх падобных ілюзіяў адносна *іх* К. не меў. Але напраўду рука не падымалася зносіць на сметнік нячэсную прэсу, якую ён, паводле старой завядзёнкі, праглядаў даволі падрабязна.

К. быў падпісаны на два тыднёвікі. Плюс розныя газеткі-ўлёткі, што зрэдзьчасу патраплялі ў ягоную скрыню ці ў заплечнік падчас выгулу незадаволеных грамадзян на бангалорах. Агулам каля ста розных нумароў за год асядала пад камп’ютарным сталом. Выходзіла — дзесьці на два пад’езды дзевяціпавярховіка і пятнаццаць хвілінаў паштарскае працы.

Хаця ілюзіяў К. і не меў, яму ўсё ж цікава было б паглядзець, як адрэагуе які-небудзь дзедуган на газету з сумнеўнымі высновамі пра наш ленінскі лад... І таму адзін нумарок «Нашай Віны» ён падкінуў у скрыню да суседа. Нумар газеты цалкам быў прысвечаны шматлюднаму веснавому шэсцю й быў аздоблены вялікай колькасцю фотаздымкаў.

Назаўтра да К. меліся прыйсці сябры адзначыць Каляды, і ён у кожным разе збіраўся завітаць да суседа па зэдлікі. Сам К. здымаў аднапакаёўку на «Розачцы», навучаючыся на завочным у тэхнічнай ВНУ. Зарабляў усталёўкай шафаў-купэ. Няшмат, але на аплату завочкі, кватэры й «бівер» па выходных хапала.

Увечары, калі сябры разышліся, трошачку нападпітку, ён панёс зэдлікі назад. Сусед быў дзядуляўдавец. Сын палка ці нешта ў такім духу. Рэгулярна браў удзел у парадах перамогі, дзе бадзёра выкрочваў у першых шыхтах франтавікоў.

Разам з *тубарэтамі* (так казаў сусед) К. захапіў і ладны кавалак торта. Дзядуля, як і чакалася, прапанаваў застацца на гарбату, паколькі *«в одиночку такой кусманище не осилю»*. К., паадмаўляўшыся дзеля прыліку, застаўся. Газетку запрыкмеціў адразу, як увайшоў у пакой. Яна ляжала на часопісным століку ў варожым акружэнні святочных выданняў, дзе падводзіліся бліскучыя вынікі чарговага года Свінні. Дзед, падобна, таксама атрымліваў дзве газеты. Вядома, трошачкі іншага зместу. Сядаючы, К. намацаў нагой штосьці драўлянае. Зазірнуў пад столік — малаток.

Пасядзелі, утыркаючы ў вечаровую шоу-праграму. К. няўзнак пачаў перабіраць газеты. Узяў у рукі свой пажоўклы нумарок.

– Интересно, это когда же такое было? — запытаў, удаючы здзіўленне.

Дзед устаў і прыглушыў гук старэнькага «Самсунга».

– А-а-а, как раз хотел спросить. Вот, достал сегодня из ящика. Видать, ошиблись. Может, тебе хотели бросить?

– Да что вы! Я газет вообще не читаю. Интернет же есть. Посмотрите — это же мартовский номер. Десять месяцев газете.

– Полистал я, — працяжна вымавіў стары. — Занятная газетёнка. Пишут, будто семь тысяч на митинг вышло. На годовщину бэнээфа ихнего. Не, не бэнээфа. Бэнээра. И фотографии. Милиция будто бы в подземном переходе кого-то ногами била. Пишут, что посадили кого-то... Это, конечно, правильно, что разгоняют. Но вот всё равно не понимаю. Семи тысяч там, понятно, не было. Это оппозиция тryндит, как обычно. Ну, пусть две тысячи. В новостях, кажись, такую цифру называли и показывали отморозков этих...

Дзед тыцнуў пальцам у газетны фотаздымак, дзе маладзёны, захутаныя да носу ў шалікі, неслі вялізную расцяжку з надпісам: *«Воля народам — смерць імпэрыям»*.

– Ну вот чего они выходят? Неужто у Запада денег столько, что всем забашляли? Мне вот психология их интересна. Молодёжи на фото много. Вот скажи мне, ты, молодой: хрена их не устраивает?

К. чакаў падобнага пытання, але ўсё адно сумеўся. Нават трошкі пачаў хвалявацца. Як тут адказаць?

– Ну, не знаю. Вон пишут, что в Европу хотят. Что БССР надоел. Хотят этих, честных выборов. Студенты против распределения...

– Гаўнюки! — грозна перапыніў дзед. — Президент им возможность учиться дал, стипендию. А они — «у Эўропу»! И, главное, ездят и повсюду трындят, чтобы санкции ужесточили. Хорошенькие патриоты, ага. Или еще беларускамоўные. Видел я как-то на почте одну бабу. Возмущалась, что бланки только на русском. Мол, права её ущемляют. Дискриминируют. Надменная такая, как будто самая главная, как там

по-ихнему — «с пыхой». «Ганьб*а*», — говорит. Ну, и всё в таком духе.

Памаўчалі.

– Ну, я, Пал Егорыч, наверное, пойду.

Дзед не чуў.

– Да я в ваши годы фашиста бил, а они готовы за зелёные на ганса вкалывать. Вон внук мой, эмигрант, бля. Живет в этом, как его, слово такое мудацкое... А, в Дортмуде. Звонит: «Дедуль, приезжай. Так хорошо здесь». Тьфу ты! Небось, сортиры там бюргерам вылизывает. Сам-то явно, если б возможность дали, за бугор свалил? — дзед сувора зірнуў на ці, хутчэй, скрозь К., на кагосьці нябачнага за яго спінай. У галаве ўсплыла фраза, якую герой улюбёнага фільма казаў нью-ёркскаму таксісту: «Зря вы так. Я родину люблю». Але К. прамовіў іншае:

– Да меня и здесь устраивает. Зарабатываю нормально. В Европу могу и так, на экскурсию съездить.

Дзед паспакайнеў.

– А давай, сосед, с Новым годом, — падышоў да шафы й дастаў спалавіненую пляшку каньяку.

Наліў. Выпілі.

– Ну, хорошо. А что они знают про СССР? Только то, что им ихний Поздняк в уши вдул? Да и внук, ну, тот, что в Германии, тоже пизд*и*т. Это чтобы перед братишкой двоюродным повыделываться, вторым моим внучком. А тот по митингам не шлялся. Окончил Академию управления. С отличием. Сейчас государство ему квартиру строит. А что там, в этом Мунде? Че-че-вэ? Человек человеку волк. Ну, давай. С Новым годом, — стары кульнуў кілішак.

У кватэры зверху гучна заенчыла дзіця. Дзед зірнуў на гадзіннік і з нечаканым спрытам падхапіў

з дывана малаток. Падскочыў да вакна й разоў сем грукнуў у батарэю. Дзіцё не супакоілася.

– Житья от них нету. Одиннадцатый час. Весь день ляпают, прыгают, топают по голове, так и вечером отдохнуть невозможно. Сперва наплодятся, а потом думают. Кролики, вашу маковку...

Дзед падбег да тэлефона й пачаў па памяці круціць дыск. К. рушыў у вітальню. Апранаючы боты, ён чуў, як дзед кляне суседзяў, гаворачы штосьці пра Грамадзянскі кодэкс. Што праўда, тэлефанаваць было не абавязкова: раз'юшаны лямант праз ватныя сцены хрушчоўкі быў добра чуцён і так.

К. збягаў па лесвіцы, мармычучы грабеншчыкоўскае: *«Вперёд-вперёд, плешивые стада...»* З сабой ён аўтаматычна прыхапіў з вітальні зэдлікі (рыхтык торбу ці кейс, з якімі прыйшоў). Схамянуўся толькі на вуліцы. Паставіў зэдлікі, сеў, запаліў. Перад прымружанымі вачыма праходзілі кадры: нарыхтоўка курапацкіх крыжоў, бульдозеры, начоўкі ў намётах — у Курапатах і на асфальце галоўнага пляца Краіны...

Не, сам ён не стаяў ні ў катлаване будаванай МКАД, ні ў ачапленні намётавага мястэчка. Кадры тыя К. ведаў з нэту ды газетаў.

І яшчэ бачылася К., як заўтра ён ідзе з заплечнікам, бітма начыненым свежым «агітпропам» — гэткі гібрыд шахідскага Dead-Мароза й тэрарыста Івана Памідорава. Ідзе па сон і спакой невядомых яму сыноў і дачок палка.

*28–29 снежня 2007 г.*

## ТАРАВЫВАН

*Насельнікам і прывідам крамы «Рыба» прысвячаецца*

### 1. Кімано

Крама «Рыба», што на Карламарла, была адным з яго першых усвядомленых успамінаў. Тады на гэтай вуліцы было няшмат крамаў. Забіраючы яго з садка, маці часцяком заходзіла ў «Рыбу», і ён памятае, як разглядаў славутыя барэльефы на сценах. Насамрэч ён толькі рабіў выгляд, што іх разглядае. Сам жа цішком выкалупваў драўлянай палачкай з прымацаваным на канцы пластылінам драбязу, што пазакатвалася пад к*а*су...

Пад «Рыбай» месцілася цырульня, куды ён хадзіў раз на месяц. Туды ж хадзіла ўся вуліца. І, мабыць, дзве суседнія, бо праседзець у чарзе можна было да апупення. На пытанне цырульнічкі, як стрыгчы, ён, чырванеючы, адказваў: «Гэтак жа, як і вас». Звычайна яму траплялася майстрыха з самай неахайнай фрызураю. Тая стрыгла, ні разу не зірнуўшы ў ягоны бок нават праз люстра, уважліва разглядала чаргу і балбатала з таварышкамі. Закончыўшы, яна казала на развітанне: «Следующий!» Пасля такога сеансу ён дзякаваў Богу, што не пазбавіўся вушэй.

Адна з першых сустрэчаў (нават сутычак) з боскім адбылася, калі ён пайшоў на секцыю па тэйквандо ў Дом фізкультурніка. Ён, натуральна, не ведаў, што насамрэч тое быў замаскаваны пад Дом фізкультурніка старадаўні касцёл. Адзіным, што ўказвала на адметнасць гэтага месца, былі гукі арфы, што часам даносіліся адкульсьці зверху падчас трэніровак і дзіўна накладаліся на рэзкія карэйскія каманды. Тады якраз адбывалася барацьба вернікаў за вяртанне храму яго першаснага аблічча. Пасля прэзідэнта мясцовай федэрацыі тэйквандо пасадзілі за згвалтаванне, а Дом фізкультурніка ізноў зрабіўся касцёлам... Але ўспамін такі. На трэніроўкі ён хадзіў з вялізным пакетам з надпісам «Белпласт», ручкі якога зашпільваліся адмысловым чынам. У пакеце было «кімано» й чэшкі.

(«Кімано» ўзята ў двукоссе з тае прычыны, што напраўду такім яно не было. Калі ён паведаміў бацькам, што паспяхова здаў першы іспыт і мае права на ганаровае нашэнне кімано, бацькі сказалі, што нешта прыдумаюць. Кімано напраўду каштавала да халеры, але не было для яго нічога жаданейшага. Бялюткае, а яшчэ лепш — чорнае, з тоўстай матэрыі ў рубчык і з Пасам, тое была ягоная мара. І вось урачысты момант. Яму прэзентуюць пакунак, дзе ляжыць *яно*. Ужо па вазе ён здагадваецца, што мары не суджана спраўдзіцца. У пакунку ляжыць... нейкая паркалёвая сукеначка, акуратна пашытая бабуляй па ўласных выкрайках. І адпаведны ж анучавы пасік з нашытымі, згодна ступені, жоўтымі шаўронамі на канцах. Бабулю й бацькоў ён любіў і паважаў, таму ні слова папроку ад яго пачута не было. Праплакаўшы паўначы, далей ён хадзіў на трэніроўку ў гэтым «кімано» й ранейшым трыкечку.)

І вось, стоячы на лесвіцы Дома фізкультурніка, ён звыкла закідваў свой пакет на плячо, не заўважыўшы, што следам выходзіць нейкая бабулька. Удар ледзь не збіў яе з ног. Ён пачаў выбачацца, але ў вачох бабулькі не пабачыў даравання. Бабулька сказала: «Вандалы. Нічога, не доўга вам тут засталося». Гэта была першая пачутая ім фраза па-беларуску па-за фармалісцкімі ўрокамі па белмове ў пачатковай школе.

## 2. Буйкі

Ад таго тэйквандо напраўду толку было мала, але пра гэта даведаўся трохі пазней. Крама «Рыба» знаходзілася акурат пасярэдзіне між яго домам і школай. Да школы было каля 15 хвілінаў хады па Карламарле. Большасць школьных сяброў жылі альбо тут, альбо на паралельных вуліцах. Ён абсалютна не ведаў іншых раёнаў і мог заблукаць паўсюль, калі б яго выкінулі дзесьці ў адкрытае мора горада. Па сутнасці, арэал ягонага існавання ледзь не да паўналецця абмяжоўваўся стадыёнам з аднаго боку і часткай праспекта з другога. Вядома, былі яшчэ двары й дахі, дзе, абвязаўшы твары піянерскімі гальштукамі, яны выяўлялі хто ніндзяў, а хто хонгільдонаў.

У доме, дзе ён жыў, траляліся рэліктавыя экспанаты. Напрыклад, жанчына з муштуком, якая выносіла стараржымнае плеценае крэсла на двор, сядзела, гайдалася, санліва аглядаючы наваколле праз шызы цыгарэтны дымок...

Дом, як, дарэчы, і ўсю Карламарлу, будавалі палонныя немцы. Гэты факт меў амбівалетныя наступствы: з аднаго боку, нямецкая грунтоўнасць дазваляла жыллёва-эксплуатацыйным службам дзесяцігоддзямі эканоміць на капрамонтах (то бок

папросту з прыборам на іх класці). З іншага ж боку, толькі аднаму Богу і галоўнаму інжынеру ЖКГ было вядома, на якіх соплях трымаўся падмурак. Уладзю, калі ён спускаўся ў сутарэнні па ровар, здавалася, што варта дастаць хоць адну рудую, няйнакш нямецкімі грунтоўнымі рукамі ўкладзеную цагліну, як уся спаруда лясне к чортавай матары.

За «Рыбай» месцілася *Хаза* — чыйсьці гараж. Месца збору. Тут даведваліся пра жыццё, каштавалі «віно» альбо нават гарэлку. Тут жа было вакенца жаночай «лазні» (інтэрнацкіх душавых), дзе нібыта можна было ўбачыць штосьці выключнае. Калі збіралася не менш за тузін, ішлі гуляць у футбол альбо, зрэдзьчасу, на вайну (*за радзіму*, а пазней — *за музыку*).

Аднойчы аднаго з іхніх, Касога, зачапіў Рыжы Віня. Віня быў старэйшы, але крыху ёлупчык. Прызначылі час бойкі, сабраліся загадзя. З'явілася пляшка гарэлкі, якой ніхто не пакаштаваў, але якая дужа хутка спусцела. Пайшлі вялізнай *брагай*. З Вінем таксама былі хлопцы, але значна менш па колькасці. Сышліся *на разы*. Трохі памахаліся. Касы хутка правёў удушальны, і Віня заенчыў пра літасць. Касы дзеля парадку даў два разы ў пысу ды адпусціў небараку. Але не ўсе былі настроены гэтак лагодна. На лесвічнай пляцоўцы яго дагнаў хлопец з «кастэтам», зробленым з батарэевага вентыля, і некалькімі ўдарамі паклаў Віню на лесвічнай пляцоўцы каля яго ж дзвярэй.

Узрушаным такім бліцкрыгам, усім хацелася працягу. Яны стаялі ў двары, шукаючы ахвяру (Віневы спачувальнікі даўно паразбегліся). З пад’езда, дзе ляжаў (ці, хутчэй, запаўзаў у кватэру) Віня, выйшаў хлапец. Ён быў высокі й прыгожы. Такіх звычайна не чапаюць. Хлапец мог бы йсці сабе, але ён сам пады-

шоў. «Чё тут у вас происходит?», — спытаў. «Чё? Те объяснить? Ща объясним». Хлапец быў не супраць *разоў*. Хтосьці паведаміў, што ў яго карычневы пояс па тэйквандо. Паступіла прапанова выставіць карытыста Алега, таксама з высокім поясам, з навукова-даследчай мэтай параўнання гэтых адзінаборстваў, хаця ўсе й так ведалі, што асноўная розніца толькі ў адрыве пяткі апорнай нагі. Ясна, што Алег бы яго хутка «зрабіў», але ў бой ірваўся вар'ят з «кастэтам».

Старэйшы аб'явіў, што, калі тэйквандыст пераможа, яго ніхто чапаць не будзе. Зрабілі кола. Тэйквандыст пачаў адпрацоўваць нагамі, бы матылёк, — прыгожа, трапна, але не дужа моцна. Хвілінаў пяць ён проста малаціў суперніка, рыхтык грушу, не даючы яму нават ачомацца. Біў, як падалося Вавану (а так, варта заўважыць, клікалі нашага героя), напалову сілы, толькі намячаючы ўдары. Раз'юшаны супернік, прычакаўшы мажлівасці, кінуўся ў бліжні бой: заціснуў галаву мёртвай хваткай, хутка засунуў руку ў кішэнь і нанёс некалькі шалёных удараў. Тэйквандыст застаўся ляжаць на траве. Нейкі час усе моўчкі стаялі, покуль не пачулі міліцэйскую сірэну. Ваван, якому тады было дванаццаць, забег у «Рыбу» і прастаяў там паўгадзіны.

Бацькі тэйквандыста падалі ў суд, але нічога давесці не змаглі. Тэйквандыст абышоўся страсеннем да лёгкім заіканнем. Наагул Ваван быў з інтэлігентнай сям'і, таму падобныя прыгоды былі свайго роду «буйкамі», далей за якія ён не наважваўся заплываць. Большасць жа ягоных дваровых таварышаў з «нядобранадзейных сем'яў» у выніку скончалі кепска: хтосьці *стырчэўся*, хтосьці *стырчэўся й кінуўся*, хтосьці сеў...

## 3. Feelf*ck

У двары за «Рыбай», каля Х*а*зы, быў Ліцэй. Седзячы на раздрапаным пацыфікамі, анархіямі ды сітуацыйнымі сентэнцыямі цагляным плоце, Ваван з сябрамі часам назіралі за фізрой ліцэістаў, што праходзіла проста на плітках перад ганкам Ліцэя (спартовай залы ў іх не было). Ліцэісты нават па-за сценамі іх *alma mater* перамаўляліся па-беларуску. Услых тое называлася «пантамі», але пра сябе Ваван іх паважаў. З шостага класа ён пачаў наведваць школьны гурток па гісторыі, удзельнічаць у тэатральных пастаноўках. Разам з гісторыкам яны хадзілі ў паходы, спявалі Шалкевіча, нават зарганізавалі летнік, дзе трэба было размаўляць выключна па-беларуску...

У 96-м Ваван... не, ужо Уладзя, быў сярод тых, хто закідваў брукаванкай афігелы ад такое нечаканкі АМОН. Годам пазней ён паступіў на факультэт, што месціўся акурат насупраць «Рыбы». Шлях ад хаты да вучобы скараціўся роўна ўдвая, але Ваван усё адно спазняўся. Там ён сустрэўся з былымі ліцэістамі. Тут трапляліся людзі, якія маглі сказаць штосьці важнае. Большасць з іх была з паперы. (Тыя, хто быў з пластмасы й стужкі, сустракаліся Уладзю й раней; іх ён насіў каля сэрца — у плэеры. Слухаючы плэер, ён лавіў сябе на думцы: добра, што няма вайны й не трэба прыслухоўвацца да паветранае трывогі).

З дзяцінства ва Уладзі была здольнасць: ён умеў чытаць словы наадварот. Адкуль тое пачалося, цяжка сказаць — ці тое з вядомага паліндрома пра лапуазора, ці тое з усмешлівага дзеда Макара... Яго здзіўляла тое, што гэтая здольнасць здзіўляе яго сямейнікаў. Спярша яму падавалася, што ў такім чытанні не можа быць нічога складанага і для іншых, а пасля зразумеў, што

гэта ягоныя насланнё і праклён. Ён лавіў сябе на тым, што перакручвае навыварат кожнае пачутае/убачанае слова, а затым і фразу. Далей тое ж пачало адбывацца з лічбамі (на метрапалітэнавых гадзінніках, нумарах аўто ды трамваяў...). Ён абсалютна не мог, як ні намагаўся, засяродзіцца на чымсьці іншым. Па сутнасці, амаль увесь ягоны мысленчы працэс зводзіўся да гульні ў словы-пярэваратні (прычым увечары ён мог бы, калі б захацеў, прыгадаць ці запісаць паслядоўнасць гэтых кашмарных практыкаванняў-травесціяў). Калі ў дзяцінстве тое было фармальнае перагортванне (то бок, паводле напісання, напр.: *ёд нам неабходны — ындохбаен ман д[з]ё*), то далей сістэма самаўдасканалілася — перагортванне адбывалася цалкам згодна з фанетыкай (то бок, калі запісаць перагорнутую фразу на стужку і пусціць наадварот, атрымалася б зыходная: *ындохбаэнь ман дой*). Значна пазней ён навучыўся ўлагоджваць акіян сваіх думак. Значна пазней...

Вучыцца на feelфаку было проста (і зусім не з прычыны таго, што яго прыналежнасці да нешматлікай варны ўладальнікаў портак). Палову часу Уладзя з сябрамі бавіў каля «Рыбы» альбо на дыхтоўных лесвіцах былое партшколы. Духоўны апгрэйд адбываўся з усімі, але з рознай інтэнсіўнасцю. Хтосьці пасля доўга лячыўся ад залежнасці (пра гэта больш ні слова). Тут ён пабачыў, што зусім не адзінокі ў сваіх загонах.

Напрыклад, вельмі моднай, як выявілася, была паліндромная паэзія. Гэты феномен, які з цягам часу ўвойдзе ў дапаможнікі па неўралогіі (а покуль апісаны толькі ў літаратуразнаўчых даведніках), быў Уладзю малацікавы: ён шукаў тых, хто падкажа паратунак ад яго хваробы, а не разаўе яе. Праўда, аднойчы і яму прыйшлося напісаць паліндромную

паэму, каб не быць *выключаным*: творчым студэнтам (да ліку якіх адносіўся перадусім прафакт*ыу*) шмат што даравалася. А выключыць яго вельмі карцела загадчыцы адной загадкавай кафедры за тое, што ён ігнараваў яе лекцыі. Яна ж не ведала, што ігнараваў ён іх усяго толькі з тае прычыны, што ягоны школьны сябра сістэматычна зрываў яго на піварыбу-чарлі-далей-на-ўсход.

На пачатку ён нават спрабаваў быў адпрошвацца. «А якую *мазу* прыдумаць?» — пытаўся ён у сябра. «Скажы ёй, што я памёр». А перад гэтым яны ўжо былі кульнулі па куфлі *на Феліксе*. Ну, ён падыходзіць і кажа: «Адпусціце мяне, калі ласка. На пахаванне майго школьнага сябра». А яна, унюхаўшы *выхлап*: «Вы што, Уладзімір, — пі-і-лі-і? Гарэ-э-лку?!» Хіба патлумачыш дурніцы, што півасны выхлап падобны да гарэлачнага... На іспыце яму давялося адказваць каля гадзіны па ўсіх білетах, але пасля кожнага даволі-ткі ўцямнага адказу гучала скрушлівае: «Та-ак, і гэтага вы не ведаеце. Ну, вось вам апошняе пытанне, на якое вы ізноў не адкажаце: білінгвізм». Тут ужо Уладзя не стрываў і адказаў разгорнута: *«эмярк у шыроваг уксляксам-ап амас а шырдуп увалаг ман ыт анэрх агокай А?»* — «Што вы маеце на ўвазе?» — спалохалася загадчыца. «Што маю, тое й на ўвазе», — адказаў Уладзя й грымнуў дзвярыма...

(Да гэтага ў яго ўжо быў адзін *залёт*, калі яны з сябрам перад лекцыяй аднаго прафесара падклалі яму на подыум-кафедру цацачны парабэлум. Трэба заўважыць, што надоечы ў адным з амерыканскіх універаў студэнт учыніў стральбу ў аўдыторыі. Прафесар адразу ж выклікаў міліцыю, а апошнім парабэлум трымаў у руках Уладзя... У пастарунку

ён патлумачыў, што тое быў не заклік да тэрору ці самагубства, як тое зразумеў прафесар, але заклік да пільнасці. У мянтоўцы працавалі шмат былых выпускнікоў яго факультэта, якія добра ведалі таго прафесара, і Уладзю хутка адпусцілі. Што ўсё адно не выратавала яго ад напісання панегірычна-пакаяльнай паэмы-паліндрома.)

Але сустракаліся й куды больш цікавыя персанажы, чым паэты-паліндромеры. Напрыклад, адзін студэнт з кітайскага аддзялення казаў, што ўсё, што ён чытае ў кнігах, яму ўжо вядома. Не ў тым сэнсе, што «гісторый усяго чатыры». Не, гаворка зусім не пра фабулу твораў, якая можа быць спрагназаваная ў некалькіх варыяцыях. Прачытваючы новую фразу, ён адчуваў цвёрдае перакананне, што ўжо чытаў *гэта* раней. Такое сабе перманентнае дэжа-вю. Хлопец не мог прыгадаць, якая фраза будзе наступнай, але яго ўпэўненасць у паўторы была непахіснай. Пры гэтым ён не кінуў чытаць кнігаў, што было б лагічным пасля такога адкрыцця. Наадварот, ён быў адзіны з аддзялення, хто прачытваў ці не ўвесь увесь непад'ёмны аб'ём тэкстаў, што задавалі, і яшчэ паспяваў бавіцца вузкагаліновымі выданнямі. Хаця ён і мог пасля ў агульных рысах пераказаць чытанае, важным для яго быў толькі тэкст, таямніца жыцця літарак, словаў, сказаў і знакаў прыпынку... Як і большасць уладальнікаў портак, факультэт ён не скончыў. Хадзілі чуткі, што часам гэты хлопец завітваў на плыневыя лекцыі да выкладніц, якія мелі звычку спазняцца не менш як на паўгадзіны, і, сказаўшы, што замяняе спадарыню N., чытаў лекцыю, покуль тая не прыходзіла...

Сам Уладзя атрымаў вышэйшую адукацыю, але ні хвіліны не працаваў па спецыяльнасці.

З Карламарлай адбываліся метамарфозы. Спачатку на ёй спілавалі ўсе старыя ліпы, пасля абвесцілі пешаходнай вуліцай. Жыхарам першых паверхаў прапанавалі новыя кватэры ў розных лошыцах ды каменных горках. Пастаяўшы крыху ў пікетах супраць высялення, Уладзя з бацькамі плюнулі, абмянялі кватэру, прадалі новую ды звалілі ту Москаў. Вярнуўшыся адтуль гадоў праз пятнаццаць камерцыйным дырэктарам фірмы «Акар-с», што займалася рэалізацыяй турэцкай сантэхнікі, Уладзя не пазнаў сваёй вуліцы (назва не змянілася, але, па чутках, яе рыхтавалі да перайменавання ў вуліцу імя ўлюбёнага са студэнцкіх часоў лацінаамерыканскага аўтара). На месцы музея, які суседнічаў з яго былым домам, цяпер знаходзіўся буйны сэкс-шоп (да герматы ля ўвахода былі дададзены два вялізныя ядры, а сама яна крыху відазмянілася), будынак яго факультэта цяпер быў бізнес-цэнтрам, на першым паверсе якога, за шыкоўнымі шыбінамі, месціўся салон вясельных строяў (разам з шлюбным агенцтвам і канторай майстроў Таро).

Рэстарацыю, што з'явілася на месцы рыбнай крамы, Уладзя выкупіў і пераназваў у ***бар «А ў бары-бары…***», аднавіў па фота славутыя барэльефы й запрасіў у якасці бармэна вядомага барда. З тых наведнікаў, хто можа з ходу зрабіць замову задам наперад, плата за выпіўку тут не здымаецца.

## Save

Ён яшчэ не бачыў, але выдатна ведаў, што за рогам яго чакае новая зграя монстраў. Адчуваў іх смярдзючы ядавіты подых, чуў іхную бесталковую валтузню ў цемры. Ён набраў паветра, ускінуў кулямёт і запаліў ліхтар на касцы. Пачвары беглі проста на яго кулі, на да чырвані разагрэтую рулю кулямёта... Ён змушаны быў прыціснуцца да сцяны, распыляючы монстраў у мяса, у чырвона-зялёныя смаркачы. Цэліў проста ў агідныя пашчы. Вантробы расцякаліся па сценах, крывава распырскваліся па жалезнай мэблі й дымлівых маніторах. Самыя дужыя паспявалі драпануць яго па брані, але не болей. Наперадзе, ён ведаў, мусіць быць аптэчка. Вось і яна. Можна перавесці дых. Размяць здранцвелыя ад напружання пальцы і... захавацца.

Звон адстрэленых гільзаў рэхам разыходзіўся па апусцелых калідорах. Разрабы выдатна папрацавалі з гукам. Амаль поўныя здароўе ды броня. Файна. Цяпер у ліфт. Ніжэйшы ярус — апошні на гэтым лэвэлы. Прайсці яго ён беспаспяхова спрабаваў ужо тыдзень. Нават пачаў з нейкай сярэдзіннай захавалкі, каб трапіць сюды з лепшымі паказнікамі. Па выхадзе з ліфта яго чакала вялізная зграя стварэнняў, што пачалі гасіць яго ўсім, здаецца, што толькі было

прыдумана ў гэтай гульні. Ды яшчэ на нозі кідалася нейкая пацукападобная поскудзь...

«Кожнай пары — па твары!» — цадзіў ён, коцячы ў агідную гушчу апошнія гранаты, але паказнік здароўя раставаў на вачах. Усё. «Гейм авёр» — амаль весела канстатаваў ён ці то сам сабе, ці то свайму ноўту і зрабіў некалькі кругавых рухаў плячыма. Моцна балелі запясці й правы біцэпс. Гадзіннік на мікрахвалёўцы паказваў 4:00. Пад'ём на працу а палове на восьмую. «Факін шыт!» — інфантыльна мацюкнуўся.

Падсвечваючы сабе шлях мабільным тэлефонам, на непаслухмяных нагах, што вярталі сабе валадарства ў гэтай рэчаіснасці, ён пачаў прабірацца па цёмным калідоры ад кухні да спальні, дзе мірна пасопвала жонка. З чорных кутоў пазірквалі крыважэрныя вочы. «Севачка...» — прамармытала праз сон. Апошняе, пра што паспеў падумаць наш герой, перш як патануць у абдоймах Марфея, — падабенства свайго імя з ангельскім словам *save*. І як гэта ён раней не заўважаў?

• • •

Севу сніліся зялёныя літаркі. Яны даміношкамі падалі ўніз, пакідаючы па сабе каламутны шлейф. Затым Сева прачнуўся (вядома ж, у сне). Ён сядзеў на кухні перад выключаным ноўтам, як раптам манітор ажыў, і зялёныя літаркі пасаскоквалі ў фразу: «Тук-тук. Ідзі за белым трусікам». І тут жа прагучаў званок у дзверы. Па спіне прабегла дрыготка, але Сева рашуча падышоў да дзвярэй. Адчыніў іх. Там нікога не было. Тады ён збег уніз. Праз яго двор беглі людзі. «Наступаем?» — спыніў ён кагосьці ў палітоне. «Адыходзім. Плошча перакрыта. Усе бягуць да парку». Сева таксама пабег.

У парку калыхаўся шэры натоўп, над якім разносілася: «Ідзі за белым трусам! Ідзі за белым трусам!» Прыслухаўшыся, Сева зразумеў, што насамрэч скандуюць: «Ідзі за Беларуссю!» Раптам з усіх бакоў, бы прусакі, вельмі хутка пачалі выскокваць аднолькавыя чорныя амонаўцы. Людзі кінуліся наўцёкі. Севавы ногі сталіся ватнымі, і ён толькі стаяў і назіраў, як невялічкая купка маладзёнаў голымі рукамі спрабуе аказваць супраціў дручкам ды кірзачам жаўнераў Урфіна Джуса. Ён схапіў тронак ад сцяга, што ляжаў на ходніку, і пачаў раскідваць чорных, бы тыбецкі манах. Амонаўцы адступілі, перагрупаваўшыся ў ланцуг. Сева зароў: «За Беларусь!» і пабег проста на чорны ланцуг. На ім была найлепшая браня. Плазменны кулямёт распыляў АМОН у хлам, у чырвона-зялёныя смаркачы...

Назаўтра ўсё балела, нібы пасля сапраўднае бітвы, але галава была ясная. З люстэрка ў лазенцы пазіралі напаўзаплюшчаныя (ці напаўрасплюшчаныя?) вочы з жоўта-чырвонымі бялкамі.

На працы да абеду адчувалася мулкая спустошанасць. Дзесьці на перыферыі свядомасці пазумквала думка: «Ну, добра. Хрэн з ім, са здароўем. Хрэн з ёй, з бранёй. Хрэн з ім, з агнямётам ды поўным боекамплектам. Набыць плазменны кулямёт на ўсе, а там паглядзім...»

Насамрэч Сева не быў геймерам-псіхапатам з тых, што лепшыя і горшыя гады жыцця бавяць у замацюканых ды прасмярдзелых потам камп’ютарных клубах. Дарэчы, ён памятаў, як з'яўляліся іх першыя аналагі, што месціліся ў пераходзе на «Кастрычніцкай». «Байты», «спектрумы», «еэскі»... — ад адных гэтых словаў тады беглі дрыжыкі.

З параметрамі яго цяперашняга кампа можна было дазволіць сабе самае свежае ды накручанае, але, паўторымся, маньякам Сева не быў. Яго мала цікавілі пакрокавыя ці рыал-тайм стратэжкі ды іншыя эрпэгэ, за якімі праседжвалі ўвесь магчымы час многія ягоныя супрацоўнікі. Наогул гуляць на працы ён сабе ніколі не дазваляў, адкрыта пагарджаючы тымі, хто трапіў «у сістэму». Вядома ж, жонка не ведала пра Севаву слабасць, засынаючы з пэўнасцю, што муж па начах дарабляе справаздачы (падчас гульні левая рука заўжды памятала пра спалучэнне альт-таб).

І чаму яго настолькі зачапіла звычайная офісная гулька, гэтак званая ізаметрычная стралялка? Ён адчуваў, што за ўсім гэтым стаіць штосьці большае за тупы азарт. Ён мусіў прайсці гульню да канца, завяршыць місію. Пакончыць кібенематары з усім гэтым лайном!..

На абедзе Сева дазволіў таварышу ўгаварыць сябе ўзяць па піву, і стала зусім хораша.

«Хочешь, расскажу последний анекдот про Штирлица?» — запытаўся таварыш. «Валяй», — млява адказаў Сева, не дужа верачы ў тое, што такая показка існуе. «Слушай. Штирлиц шёл по лесу с автоматом. Вдруг в ближних кустах что-то зашуршало. Штирлиц выпустил несколько очередей, сделал два шага назад и... сохранился».

*<Shift — F12>*

У офіс Сева паднімаўся з намерам дакапацца да сутнасці. Ён набраў у пашукавіку назву гульні й хутка знайшоў форум яе заўзятараў. Ну, вядома. Той ракавы ўзровень цікавіў не аднаго яго. Усё было проста: дабегчы да жоўтага пагрузчыка, што стаяў ля

супрацьлеглай сцяны, і прабівацца на ім паўз калатушу монстраў да наступнага ліфта. У гэтай місіі не было ўмовы забіць усіх...

Цікава, што форум, на які ён натрапіў, меў беларускі дамэн. Знізу быў прычэплены даўжэзны банер, што заклікаў прыйсці на мітынг. Сева клікнуў па ім. Аказалася, што якраз сёння «опы» ладзяць святочнае шэсце. Міма праходзіў супрацоўнік з суседняга століка. «Собираешься сходить?» — запытаў ён. «Да ты чё. Одному стрёмно. Пойдём вместе?» — па-змоўніцку падміргнуў Сева. «Не вижу во всех этих брожениях большого смысла. Народ их всё равно не поддержит. Пока хавает. Выходят одни и те же пару тысяч на двухмиллионный город. Не смешно ли?» — «В десятимиллионной Москве ещё меньше выходит,» — парыраваў Сева. «Ну, в Москве! — апошняе слова сусед вымавіў працяжна, амаль праспяваў. — Нам до Москвы-ы-ы. Беражы ныркі, змагар...» — паблажлівым шматкроп'ем скончыў размову сусед.

Вядома, Сева нікуды не збіраўся. Апошні раз ён хадзіў на падобнае мерапрыемства хіба ў школе, то бок больш за дзесяць гадоў таму, калі не лічыць плошчы ў сакавіку 2006, дзе яны былі разам з гэтым самым супрацоўнікам. Ну, зрэдку праглядаў у нэце відосы з разгонаў акцыяў. Не болей...

*<Shift — F12>*

Сыходзячы з працы, Сева абдумваў гульню. Ад гэтага ў копчыку крыху свярбела. Ён спусціўся ў фае й пабачыў невялікі натоўп.

«Что такое?» — запытаў ён у жанчыны, што стаяла ля дзвярэй, не рашаючыся іх адчыніць. «Шествие какое-то. Вроде, несанкционированное».

Сева адчыніў дзверы. У вялізны праём уціснулася некалькі супрацоўнікаў у ваганні — ці перачакаць, ці падбегчы сто метраў да метро. Па праспектавым ходніку, праз квартал ад будынка яго працы, у бок плошчы Перамогі рушыла шэсце. Над ім луналі сцягі. Раптам з-за рогу вуліцы выбег чорны ланцуг. Шалёныя вочы. Іклы. Смярдзючы подых з ядавітых пашчаў. *Касманаўт*, што бег паперадзе, зароў: *«Назад-суки-бл*дь!»* Людзі шаснулі ў будынак. Сева за імі. У скронях крыху стукала.

Ён падняўся ў свой працоўны пакой. Зірнуў у вакно й пабачыў, як у двары чорныя даганяюць дэманстрантаў, ламаюць тронкі сцягоў, валяць на зямлю, б'юць, б'юць, цягнуць у арку, да аўтазакаў... «Грамотно работают. Блакіруйце і рассякайце», — без асаблівай інтанацыі вымавіў хтосьці за спінай. Сева ізноў спусціўся ўніз і вызірнуў на вуліцу. Бойка яшчэ працягвалася, але ўжо без сцягоў. Толькі шэры натоўп. Пад'язджалі новыя цёмна-зялёныя аўтазакі. Нейкі маладзён кінуў у шкло брудны сняжок і адбег у арку.

На ходніку ляжаў сцяг з шасціканцовым крыжам, на якім адбіліся некалькі слядоў ад берцаў. Доўгая тэлескапічная вуда-тронак была цэлая. Сева ізноў вярнуўся ў будынак. Нетаропка зняў з пляча торбу з ноўтам, паставіў яе за фіранку ля стала вахцёркі й выйшаў вонкі. Калі прыходзіць наканаванасць, страх знікае — прыгадалася яму чыёсьці выслоўе. І яшчэ ўзнікла бязглуздая думка, якая ў той момант падалася амаль дасціпнаю: шкада, што ў гэтым месцы нельга перазахавацца.

Ён падышоў да вуды, узяў яе, астылую, у далонь і рушыў у бок плошчы Перамогі, высока падняўшы сцяг.

*Сакавік 2009 г.*

# Апавяшчальнік

*Фантастычнае апавяданне**

Аўтаномны пажарны апавяшчальнік — у кожны дом!

*Сацыяльная рэклама*

Люба ўжо стаяла ў дзвярах з дзіцячым вазком, збіраючыся выходзіць на дзённы шпацыр, як у вітальні забрыньчаў тэлефон.

– Любоў Паўлаўна? — запытаўся са слухаўкі бясколерны голас.

– Так.

– Сацаддзел, — прадставіўся голас. — Ці ўсталяваны ў вашай кватэры аўтаномны пажарны апавяшчальнік?

– Не, — адказала Люба, на ўсялякі пажарны агледзеўшы даўно не беленую (а можа, даўно беленую) столь.

– Вы адна выхоўваеце дзіця, так? — зрабіўшы націск на лічэбніку, удакладніў голас.

– Ну, як...

– То бок — без мужа?

– Т-так.

– Сацыяльныя аддзелы горада праводзяць акцыю: бясплатная раздача і ўсталёўка аўтаномнага пажар-

* Дзеянне адбываецца ў зусім недалёкай будучыні.

нага апавяшчальніка для інвалідаў, мнагадзетных, мацярок-адзіночак ды іншых катэгорый малазабяспечаных грамадзян, — у пяцьдзясят другі за сёння раз прадэкламаваў голас. — Паколькі вы пражываеце ў двухпакаёвай кватэры, вам паложана дзве штукі апавяшчальнікаў. Скажыце калі ласка, калі вы бываеце дома?

– Ды я заўсёды бываю. Я ж з дзіцем сяджу, — на ўсялякі пажарны ўдакладніла Люба. — Ну, хіба што пагуляць выходзім удзень перад сном ці ў магазін...

– Добра, — з палёгкай выдыхнула слухаўка і ў пяцьдзясят другі раз паведаміла: – Работнік прыйдзе да вас у бліжэйшы час, каб здзейсніць усталёўку. Усяго добрага.

Насамрэч Люба не была маці-адзіночкай. І бацька ў дзіцёнка, Слаўкі, меўся, і жыў ён разам з дзіцем і жонкай. Праўда, у шлюбе грамадзянскім. Хоць і распісацца прапаноўваў, і вяселля хацеў, каб усё як паложана. Гэта Люба не захацела роспісу й вяселля. Прычына была простая.

Калі Люба даведалася пра цяжарнасць, стаяў шэры смаркаты лістапад. Не хацелася Любе вяселля ўвосень, калі шэрань, бруд і слата. Ні фотак прыгожых, ні свята. Ды й не так жа хутка вяселле тое робіцца. Ну, у ЗАГСе якраз чаргі не было — распісвайся не хачу. Гэта не Мінск, дзе, кажуць, за паўгода запісвацца трэба. А банкет, а тамада, а здымка, а сукенка, у рэшце рэшт (якая, нават калі напракат браць, палову ўсіх выдаткаў возьме)? Сяброўкавы бацькі, напрыклад, дык адмысловы вясельны крэдыт у банку бралі. Ну а як?..

Узімку — тым больш не хацелася. Хто ж зімой жэніцца? Спадзявалася: можа, у сакавіку яшчэ не

будзе вельмі заўважна? Але ў сакавіку ўжо не проста заўважна стала, але яшчэ й такі таксікоз люты пачаўся, што ўжо ніхто ні пра якое вяселле й не думаў. Тут бы данасіць хоць да мінімальнага тэрміну. Двойчы ў рэанімацыі адлежвацца прыйшлося, пракапвацца, бо ежа назад выходзіла, а што не выходзіла — на дзіцёнка й будаўніцтва яго дамка плацэнтавага ішло. У Мінск вазілі на захаванне. 80 км. У дарозе нат спохваткі пачаліся. Але нічога, абышлося, паспелі гармон укалоць.

Не, ну сучасная — асабліва айчынная — медыцына й на зусім маленькіх тэрмінах плод ратуе. Толькі, як змрочна жартаваў яе мінскі рэаніматолаг, з такіх дзетак «ліхтарат» вырастае. Той, які потым за Цыбуленку галасуе.

Ліхтарат Люба не хацела. Але й не вельмі разумела тых, хто на Цыбуленку гаўкае. У яе райцэнтры, праўда, ніхто асабліва й не гаўкаў. Гэта ўжо ў мінскай лякарні, ад рэанімацыі адыходзячы, яна наслухалася і пра нячэсныя выбары, і пра нейкія рэпрэсіі, і пра эканамічны калапс. Ляжала з ёю кабета амаль пенсійнага веку. Мінчанка Святлана. Уся з сябе, выпешчаная, дагледжаная, з манікюрамі-педзікюрамі. Нібы й старая ўжо, калі па шыі глядзець, а цела, грудзі — як у маладухі (Люба маму сваю згадала адразу ж, калі пабачыла, як Святлана распраналася падчас агляду). І вось жа — на дзіцёнка наважылася. Сама на машыне прыехала, калі воды пачалі адыходзіць. (Дарэчы, лякарня была рэгіянальная, але ж у палаце з нямінскіх толькі Люба і дзеўчынёха нейкая, ці тое са Смалявічаў, ці тое са Смілавічаў, былі — астатнія сталічныя: хто за плату, хто па блату).

Мінчанка балбатлівая апынулася — жах. Ці гэта яе сперапуду пасля наркозу на базар прабіла? Увесь час фаніла — то пра мужоў сваіх, хто колькі зарабляў (Люба не вельмі веры давала, бо зусім нерэальныя лічбы гучалі), то пра дачку. Ні «Косма» пачытаць, ні скрыню паглядзець (хаця бабскіх баек, якіх Люба за тыдзень наслухалася, не на адзін серыял хопіць).

Дачка журналісткай працуе на тэлевізіі. Цяпер у Кіеве, а пачынала тут, у Мінску. Рабіла аднойчы гутарку з нейкім чыноўнікам для навінаў. Дык той штосьці ляпнуў пра неэфектыўнае кіраванне, а журналістка, маладая-зялёная, у сюжэт умантавала. Вядома ж, сюжэт не прапусцілі, а ў хаце назаўтра ж шмон учынілі. Усё ў кватэрыператрэслі, паліцы павыварочвалі, падушкі перапатрашылі — кшталту каб копію касеты нідзе не прыхавала. Пасля гэтага і з'ехала дачка ў Кіеў. Таксама рэпарцёрам уладкавалася. Калі апошнія выбары былі, яе ў Мінск накіравалі, сюжэт рабіць. Падчас разгону мітынгу на плошчы ніхто не глядзеў, ці ёсць на табе бэйджык «прэса», ці няма, і запакавалі яе ў бітма набіты аўтазак. Пакуль пакавалі і везлі, білі — Святлана казала, што ўсе грудзі былі сінія, і паказвала на сабе. Яшчэ пашанцавала, што ў турэмным дворыку дачку мужаў знаёмы палкоўнік пазнаў і проста за руку з шэрагу вывеў. Слухала Люба і не тое што не верыла — які рэзон быў гэтай мінскай фіфе хлусіць ім? — але й не надта каб да сэрца брала: сама дзеўка вінаватая, няма чаго было туды перціся. Святлана ж ледзь не з гонарам пра дачку распавядала. Было б чым ганарыцца...

Ну, вось, данасіла Люба да саракавога тыдня і ў чэрвені нарадзіла. Спярша думала, адыдзе крыху — і вяселле зладзіць, але Славік зусім кволенькі адразу

быў. З хваробы ў хваробу кідала — то білірубін павышаны, то ротавірус нейкі... «І адкуль гэтая трасца сыплецца? — усё здзіўлялася Любіна маці. — Жылі ж раней нейк без гэтага...»

Ды й сама Люба паднабрала за цяжарнасць там, дзе і заўсёды празмерна было (матчына генетыка). Якія тут табе фоткі? На халеру яны трэба, калі сорамна будзе ў «Аднакласніках» павесіць?!

Ну і, да ўсяго, — са свякроўю будучай непаняткі пачаліся. Паехалі яны спярша са Славікам і Колем (так хлопца яе звалі) да яго бацькоў, што лагічна было — у тых трохпакаёўка, добра абстаўленая, дом маналітна-блочны. Карацей, кожа-рожа-хай-тэк, усе дзялы. Але не ўжыліся яны з маці — ці тое кухню не падзялілі, ці, можа, Колю? Рыкнула свякроў раз на Любу, другі. А Любаня не з тых, хто трывае: сабрала рэчы й вярнулася ў сталінку да бацькоў. Жыла там маці яе з дзяцінства. А наагул — яшчэ бабця ў пяцідзясятыя са сваёй маці ў камуналцы гадавалася. Прыбіральня — дык толькі на Любінай памяці з'явілася. А так на двор хадзілі. Санвузел сумешчаны. Бацька Любін яго гаваннай заве — то бок гаўно і ванна разам.

На заўтра і Коля да іх прыехаў. Жыць пачалі ўпяцёх. Ушасцёх нават — калі ката лічыць. Бацькі — людзі вясёлыя. Самі ж у значна горшых умовах пачыналі. Ну, а пасля, покуль абжыліся-ўладкаваліся, ізноў смаркатая восень, шэрань і слота. Ніхто ўжо пра вяселле ўслых і не згадваў.

Коля ва ўніверы мінскім вучыўся. На завочным. У райцэнтры тэхнікум скончыў і сантэхнікам працаваў. З халтурамі штосьці выходзіла, але не дужа яму гэта, ясная справа, падабалася. Цяжарнасць Любіна

як снег звалілася, і Коля — з мамкінай падказкі, пэўна, — нават паспрабаваў быў намякнуць: маўляў, давай мо пачакаем, час цяпер незразумелы, універ во яму хоць бы скончыць. Але Люба цвёрда абсекла: не хочаш — не трэба: я й сама дзіцёнка выгадую. Але тады, як затрымка здарылася, і Люба не адразу з лёсам змірылася. Да апошняга спадзявалася, што гэта толькі затрымка. Сама яна на рынку працавала. Рэалізатаркай. А хто ж табе на рынку які дэкрэтны адпачынак аформіць — у яе й працоўнай не было. Ну а як?..

А тады ні ў воднай аптэцы тэсту на цяжарнасць не знайшлося. І паехаў Коля ў Мінск — у яго якраз сесія пачыналася — са слоічкам Любінай мачы, набыў тэст і, не дачакаўшыся вечара, ва ўніверскай прыбіральні ўсё і спраўдзіў. Так хацелася, каб адна рысачка на тэсце праявілася, але ж не — праявіліся дзве.

Цяпер пра ўсё гэта са смехам згадваецца. А насамрэч — і не згадваецца ўжо. Нібыта й ваганняў ніякіх не было. Такі Славічак ладненькі й смешненькі выйшаў. Цьху-цьху-цьху.

Карацей, засталася Люба дэ-юрэ «адзіночкай». А тут сяброўка з рынку параіла: ты схадзіла б у сацаддзел, на дапамогу памперсную падала. І ў чаргу на кватэру запішыся, ці мала што? Ну, яна й пайшла, і падала, і запісалася. Яе ўключылі ў нейкі нібыта хутчэйшы спіс — не самы хуткі, вядома ж: «Ну, вы ж разумеце, цяпер галоўны прыярытэт для дзяржавы — мнагадзетныя сем'і. Ну, і пра маці-адзіночак мы таксама, канешне, помнім!» — запэўнілі.

Дапамогі той і сапраўды толькі на два пачкі «памперсаў» хапала. Затое неўзабаве прыйшлі з

сацаддзела — правяраць, з кім яна ў кватэры жыве, як жыве і, зрэшты, ці жыве. Добра, што Колі дома не было. Прайшліся па пакоях, нават у шафу зазірнулі. Спыталі, чые красоўкі мужчынскія ў вітальні стаяць. Адказала: бацькавы. Пазіралі крыху падазрона, але нічога, абышлося. Сышлі.

І вось цяпер ізноў гэты сацаддзел са сваёй акцыяй па падтрымцы малазабяспечаных катэгорыяў...

Люба прачытала на нейкім мамскім форуме, што пад маркай усталёўкі апавяшчальнікаў насамрэч праводзяць дагляд кватэр: ці сапраўды мнагадзетныя альбо «адзіночкі» тут жывуць, ці ложкі дзіцячыя стаяць. Могуць і ў шафу зазірнуць (гэты факт асабліва абураў форумных змагароў) — паглядзець, якая вопратка на паліцах ляжыць. Хтосьці пісаў, нібыта прыйшлі так у кватэру, дзе мнагадзетныя прапісаны, а там — толькі бабця з дзедам. Аказалася — яны на чарзе стаяць на жыллё, з бацькамі прапісаныя, а самі кватэру здымаюць (ну як ты рэальна ўсямёх у двухпакаёвай хрушчоўцы з 5-метровай кухняй памесцішся?). І суседзяў распыталі, ці часта яны дзіцячыя енкі чуюць. Аказалася — не чуюць. Гэта ў хрушчоўцы! Карацей, выкінулі тых мнагадзетных з ільготнай чаргі. «Давай, да свіданія», як кажуць...

Пісалі, што Цыбуленка даў загад скараціць чэргі «нуждающихся», і вось пачаліся акцыі. Бясстрашныя форумныя жыхары абурана лямантавалі: ды хай бы да мяне прыйшлі са сваімі пажарнымі апавяшчальнікамі — я бы іх на парог не пусціў! А яшчэ дазваляць столь псаваць? Ды з якое радасці! Ды я б іх!..

Тое ж самае, дарэчы, і Любін бацька сказаў — паслаць іх куды падалей, — але маці абачліва за-

пярэчыла: хай сабе ўсталююць, і забудземся на іх. Нашто гусей дражніць? Ды й напраўду — а калі пажар? Праводка ж, пэўна, з пяцідзясятых гадоў не мянялася.

Званок у дзверы раздаўся праз тыдзень пасля тэлефанавання, калі Люба крыху страціла пільнасць, заспеўшы Колю дома: зайшоў перахапіць у абед. Коля прапанаваў не адчыняць, але Люба, завесіўшы фіранкі ў дзіцячым пакоі і замкнуўшы Колю з малым у «гаванне», дзе яны караблік пускалі (Славіку на ўсялякі пажарны шчэ й дунду ўсунула), усё ж адчыніла. На парозе стаяў мужык з перфаратарам і інструментальнай скрыняй. Са скрыні ён выцягнуў два апавяшчальнікі, падрабязна распавёў, як імі карыстацца (калі батарэйку мяняць, як чысціць). Збіраўся ўжо прадэманстраваць, як, уласна, апавяшчальнік апавяшчае, але Люба паверыла на слова, кіўнуўшы на дзверы пакоя, маўляў, дзіцёнак спіць. Таму й свідраваць нельга.

– Нашто вам час губляць. У вас жа, пэўна, шмат працы яшчэ. Мы самі ўсталюем. Бацька мой прыйдзе ўвечары і прыкруціць.

Мужчына не настойваў.

Калі ён ужо стаяў у дзвярах, з лазенкі пачуўся грукат.

– Гэта хто там у вас? — пацікавіўся ён.

– А-а, гэта кот. Ваду любіць піць з-пад крана. Напэўна, мыльніцу развярнуў.

– Кот? А-а... Усяго добрага.

Сацаддзел Дзяржынскага раёна месціўся рыхтык у такім жа двухпавярховіку, як і Любіна кватэра. У цэнтры райцэнтра такіх будынкаў, абабітых

звонку вагонкаю — іх па старой памяці называлі баракамі, — захавалася нямала яшчэ з даваеннага часу. У іх пераважна месціліся ўсялякія ўстановы. Абстаноўка ўнутры была не проста спартанская. Тут хутчэй падышоў бы эпітэт «жабрацкая»: рыпячая драўляная падлога з аблезлай фарбаю, патрэсканыя сцены, даўно не беленая (ці даўно беленая) столь у жоўтых разводах. І сёй-той, хто ўваходзіў сюды з цвёрдым намерам прасіць і патрабаваць, ну, не тое што пакідаў надзею, але тут жа губляў увесь імпэт і рашучасць. Маўляў, калі начальства ў такіх умовах жыве, то што ўжо нам, смяротным...

Хіба што супрацоўніцы са сваімі баявымі макіяжнымі расфарбоўкамі й сучасныя камп'ютары з пляскатымі маніторамі стваралі дысананс з шэрасцю агульнай абстаноўкі. Ну і апавяшчальнікі, у вялізнай колькасці, нібы маленькія касмічныя апараты, прысмакталіся да жоўтае столі ўсіх калідораў і кабінетаў...

Начальнік сацыяльнага аддзела, вярнуўшыся з абедзеннага перапынку, з засяроджаным выглядам раскладваў пасьянс «Павук», калі ў дзверы пагрукалі:

– Сяргей Аляксандравіч, вас просіць зайсці галава, — паведаміла бландзіністая сакратарка. І дадала: — Зараз.

– Добра, дзякуй. Нешта здарылася?

– Ды не, — сакратарка прычыніла дзверы і, панізіўшы голас, па-змоўніцку прамовіла. — Там у яго госць. Сказаў нікога не пускаць. Ужо дзве гадзіны сядзяць. Я на абед выходзіла, а яны там так і засталіся. Скрынку нейкую прывёз.

І, ужо ў дзвярах: —Нумары на машыне — з сямёрачкай...

– Знаёмцеся, гэта Алег Фёдаравіч. З Мінска да нас, — галава зрабіў шматзначную паўзу. Алег Фё-

даравіч кіўнуў. Трымаўся ён пакуль ціха, але значна. Чамусьці ў Сяргея Аляксандравіча не ўзнікла сумневаў адносна месца яго працы.

Галава працягваў:

– Думаю, што каму-каму, а не вам, Сяргей Аляксандравіч, трэба нагадваць, пад якім дэвізам праходзіў гэты год. Беражлівасць, беражлівасць і яшчэ раз беражлівасць. Між тым, не ўсе разумеюць гэта, патрабуючы ад дзяржавы, у цяперашніх няпростых варунках, часам неадэкватнай падтрымкі і нават апекі. Недаравальным марнатраўствам было б, калі б мы, тыя, каму народ даверыў клопат пра сябе, сядзелі склаўшы рукі, й пазіралі, нібы мышы з-пад веніка. — Галава важка заклаў руку за борт пінжака. — Ніякіх экстрэмісцкіх настрояў у нашым горадзе, дзякуй богу, не назіраецца. Незарэгістраваныя арганізацыі сваю дэструктыўную дзейнасць у нас не праводзяць, як у Мінску, — тут Алег Фёдаравіч прыўзняў і пачаў ссоўваць бровы. Галава хутка выправіўся. — Як у Мінску праводзілі да нядаўняга часу. Стараннямі Алега Фёдаравіча і яго калег усе намаганні ворагаў нашага спакою і дабрабыту пацярпелі суцэльны крах.

Бровы госця рассунуліся, заняўшы свае ранейшыя пазіцыі.

– Так, у нас сацыяльная дзяржава. Між тым шмат хто спрабуе на гэтым паразітаваць. І вы, Сяргей Аляксандравіч, цудоўна ведаеце, што вышэйшым кіраўніцтвам краіны пастаўлена задача выявіць гэтых нядобрасумленных грамадзян. Асабіста вам пастаўлена... Па пэўных падліках, каля паловы чаргавікоў, якія прэтэндуюць на льготнае жыллё, насамрэч ніякіх прывілеяў не маюць. Наколькі паспяхова вамі як начальнікам сацыяльнага аддзела праводзіцца праца

па вычляненні такіх элементаў? — нечакана рэзка ва ўпор запытаў галава Сяргея Аляксандравіча.

– Ды... працуем э-э... у штатным рэжыме. — Сяргей Аляксандравіч зразумеў, што цяпер вырашаецца ягоны лёс. — Ды як ты іх вычленіш, гэтых элементаў? Колькі нас, правяральшчыкаў, а колькі іх?..

Галава хітравата па-змоўніцку зірнуў на Алега Фёдаравіча.

– А вось таму таварышы з Мінска і прыехалі да нас. Каб досведам з намі падзяліцца. Гэта вам, Сяргей Аляксандравіч, не пасьянсы раскладваць і па забаўляльных сайтах шнырыць. Тут трэба дзейнічаць хутка й пэўна, — галава ледзь скрываў унутранае трыумфаванне ад выгляду раптоўна пачырванелага начальніка аддзела.

– Зірніце, калі ласка, вось на гэта. — Галава дастаў з вялікай скрыні, што стаяла за фіранкай, апавяшчальнік.

Сяргей Аляксандравіч узяў апарат, пакруціў у пальцах і паклаў на стол.

– Звычайны апік. Батарэйка толькі харошая. Такой на год, а мо й на два хопіць. Не тое, што нашыя. Пару месяцаў — і кабздзец.

Галава шырока пасміхаўся. Рэдка калі начаддзела бачыў шэфа ў нагэтулькі прыўзнятым настроі.

– А цяпер зірніце сюды, — галава разьвярнуў на 180 градусаў свой ноўтбук. — Можаце памахаць ручкай...

Агаломшаны начальнік аддзела бачыў у маніторы сваю патыліцу. Ён рэзка павярнуўся й зірнуў на столь у пошуках відэакамеры. Са столі на яго глядзеў,

падміргваючы чырвоным вокам, аўтаномны пажарны апавяшчальнік.

– Можаце прайсці ў свой кабінет. Алег Фёдаравіч пазнаёміць вас з тэхнічнымі дэталямі вашай новай працы. Раю, у сваю чаргу, пачаць з недзяржаўных грамадскіх арганізацыяў. Пра дзяржаўныя таксама, вядома ж, забывацца не варта. Усяго добрага.

Люба ўжо стаяла ў дзвярах з вазком, збіраючыся выходзіць на дзённы шпацыр, як у вітальні забрыньчаў тэлефон.

– Ало?

– Сацаддзел. Ці прымацавалі вы да столі аўтаномны пажарны апавяшчальнік?

– Пакуль яшчэ не. Не паспелі, — не здолела ад такой нечаканкі схлусіць Люба. І хутка дадала: — Але яны знаходзяцца амаль пад столлю: адзін на лядоўні, другі на шафе, — усё-ткі схлусіла, гледзячы на «апікі», якія як ляжалі, так і ляжалі на тумбачцы ў вітальні.

– Не, ведаеце, трэба ўсё ж прымацаваць. Да нас паступаюць сігналы, што шмат у каго апавяшчальнікі не прымацаваныя. Але ж, па нормах і інструкцыі, яны гарантавана дзейнічаюць толькі ў палажэнні пад столлю сетачкай уніз. Зразумейце, нас жа таксама кантралююць, — нечакана бясколерны голас набыў чалавечыя інтанацыі. — Вы ж не будзеце супраць, калі наш спецыяліст завітае да вас і ўсталюе іх?

– Ды вядома ж, калі ласка...

– Вось і добра. Там, дарэчы, у вас хутчэй за ўсё адзін бракаваны трапіўся. Заадно і заменіць.

# Флейта Дажджу

*Некаторыя супадзенні не ёсць выпадковымі*

Флейта Дажджу вісела на стракатай аборцы рынавчнага намёта, побач з рознымі званочкамі, бразготкамі, каралямі, пацеркамі ды іншым фэн-шуем, што ратуе ад усіх кепстваў. Стварыў Флейту Дажджу сын дынамаўскай рэалізатаркі са звычайнага нёманскага чароту, лакаванага, прабітага ў пэўных месцах і напоўненага рысам. *Але калі пра гэта не ведаць.* [...]

Флейце Дажджу сніўся БГ (што ў гэты момант снілася апошняму, дакладна не вядома). Дакладна вядома, што гуку, які яна стварала, мог бы пазайздросціць сам сіньёр Карлас. (Натуральна, не Сантана.)

У гэты дзень у горад увайшоў Шатан. Ён ведаў, што самы шчыры й непасрэдны смех бывае толькі ў выпадку, калі ты сам-насам з сабой. Пра тое ж здагадваўся Пётар М.

Па невытлумачальным збегу акалічнасцяў у гэты дзень здарылася няшчасце...

*) ёсць рэчы — учынкі, зробленыя намі калісь, — праз якія сорамна й горка, да сціскання кулакоў, да пацення й паколвання ў падушачках пальцаў пры адной толькі згадцы пра тое. Адзін студэнт-філолух, які цяпер да-*

*вучваецца ў аспірантуры ды неўзабаве вернецца на філфак, але ўжо ў якасці выкладніка, да прыкладу, дасюль не можа без пералічаных вышэй сімптомаў згадваць, як на першым курсе здаваў іспыт па ангельскай, спяваючы* «My mistress' eyes» *пад гітару на матыў песні* «Орел, телец и лев». *Але выпадак, які здарыўся са спадарыняй В., яна наўрад ці забудзе да бліжэйшае інкарнацыі. І дзе быў Фёдар М., каб данесці да свету невыказную пакуту чалавечую? Яго там не было. Таму не будзем дарма марнаваць смаркатых словаў, каб перадаць горыч яе ўспаміну. Гэта настолькі ж бязглузда, як дыскутаванне на тэму вытокаў татальнае прыхільнасці кіроўцаў маршрутак да крымінальнага шансону альбо настаўніц рускай літаратуры — да выкрыцця сіянісцкае змовы. Ці паспяваеш, чытачу? (*

Зімовым надвячоркам спадарыня В. вярталася дахаты, загружаная ўспамінамі пра дзяцінства й кайстрамі з прадуктамі. У яе якраз склаўся апошні радок няхітрага хоку, калі нехта падбег ззаду ды схапіўся за адну з торбаў. Далейшае доўжылася паўсекунды: меч сам выслізнуў з похваў, і рука спадарыні В. адчула халодную пяшчоту дзяржальна катаны. Калі качан з плячэй глуха плюхнуўся ў сумёт, меч ізноў быў у похвах. Урокі, што давала спадарыні В. целаахоўніца бацькі-амбасадара — гувернантка па сумяшчальніцтве — японская кунаіці, не прайшлі дарма...

Калі, мармычучы ідыёцкую песню, якую круцілі на рэчавым рынку, спадарыня В. падышла да цела, на словах *вместо, вместо, вместо нее*... яна замоўкла. У сумёце, утаропіўшы вочы ў неба, ляжала галава яе адзінага сына — студэнта, аматара пажартаваць, капітана (на жаль, былога) раённай каманды КВК...

Сёння цяжка адказаць, чаму ў той дзень спадарыня В. не набыла Флейты Дажджу (мо прычыну варта шукаць недзе сярод напісанага вышэй?). Апошняя ж

правісела на дынамаўскім намёце яшчэ нейкі час — яна не ведала пэўна, які, — заўважаючы скрозь сон, як змяняюцца стракатыя суседзі па аборцы, правісела, аж дакуль павесялелы з пахмялухі будаўнік брыгады, што ўсталёўвала рэкламны шчыт па вул. Някрасава («*Суши — вкус XXI века*»), гучна не абвесціў, узіраючыся ў расхінутыя абдоймы фіялетавай пустэчы неба: «Сейчас как у-у-піздзіць!»

Прыкладана тое ж самае, толькі без весялосці, сказаў Макс, тэрміт з касты рабочых (*тэрміты — вядомы далікатэс для цэсарак*). Макс задраў галаву ўгору — й на яго апусцілася Веданне. І ён склікаў дзяцей і старых і павёў іх, каб збудаваць новы горад.

## Intro

медытуеш на кончыку алоўка рыхтык выпальваеш масць на целе Персефоны свянцонай іголкай выводзячы тайнапіс. сляды вядуць да гарышча твайго кахання дзе прыхаваныя дамкрат і клава. гэта цябе дзіравяць у камп'ютарных клубах падлеткі гэта твае песні разносяць па дварох п'яныя гобліны гэта тваю душу клануюць і ампутаванае сэрца але й пратэз ные. Разанаў — разэнкрэйцэр без крыжа. белы месіянер блукае па Малінаўцы. два агенты ззаду. памятаеш дзіцячы садок і суворага бацьку. яму не павінна быць сорамна праз цябе. асенняя кавярня ў цэнтры горада. каму справа да таго што ты паглынаеш аладкі з кавай. гаспадыня слухае зборку Акварыума не ведаючы што тое азначае для цябе. за вакном брыдзе напаўп'яны натоўп і ў ім адзін паэт. (галоўнае заўжды пішацца ў дужках) *а што азначае жыць інакш*. сёння мы сустрэнемся і ўсё скончыцца. *Дзякуй Богу Што ты Не Здолеў Нарабіць Шкоды.*

## Трусіная нара

Для выпадковага мінака магло б падацца, што яны сядзяць удвох. Дакладней, усялякі, хто праходзіў тым вечарам паўз пустку новабудоўлі, мог заўважыць дзве рухавыя постаці на лаўцы без спінкі, невядома для каго пастаўленай акурат перад свежавыкапаным катлаванам. Але быў і трэці. (Ці, можа, правільней казаць *вербальна прысутнічаў*? Прынамсі, да я(Я)го суразмоўнікі зрэдзьчасу звярталіся. (Пра чацвёртую гаворка ніжэй. Будзь пільным, чытачу!)

Адзін быў у хатніх пантофлях, старэнькім трыкечку і бруднаватай майцы. Другі меў заплечнік, з якога перыядычна нешта выцягвалася.

– Нізкавата пайшла, — сказаў е., падносячы да вуснаў толькі адкаркаваную бутэльку з півам.

– Запамінай рухі, — b. дастаў з заплечніка піва, запальнічкай адкаркаваў-падчапіў накрыўку і пачаў акуратна размяшчаць яе на далоні — бліжэй да фалангаў. Затым скурчыў вялікі палец і, упёршыся ў яго ўказальным, мякка пстрыкнуў накрыўку ў чэрава катлавана. Ф-ф-іць.

– Гм-м-м, — суправеў палёт насавым (нечым падобным да *аўм*) е., — стрэльнута, але, трэба прызнаць, стрэльнута сярэдне...

*(далейшы кавалак дыялогу прыводзіцца без пазнакі аўтарства тых ці іншых рэплікаў, бо яны ў роўнай ступені маглі б належаць як е., так і b.)*

– Чаму ў тэкстах паважаных намі аўтараў, якія мы прымалі б і без таго, абавязкова прысутнічае метафара вар'ятні? Можна назваць колькі заўгодна імёнаў...

– Яшчэ адна тэма для дысертацыі.

– Скажу болей: зазвычай вобраз вар’ятні, які, відавочна, стаў архетыповым для XX стагоддзя...

– ...і паспяхова сягае ў стагоддзе XXI.

– ...ёсць фактарам хутчэй дэструктыўна-разбуральным, чымся пазітыўным для, так бы мовіць, эстэтычнай сістэмы тэкстаў празаікаў, што маюцца на ўвазе.

– За выняткам, хіба, Пялевіна.

– За выняткам Пялевіна.

– І Картасара з Гаршыным.

– І гэных.

– Як на сёння, не ўвапхнуць у твор алюзіі, звязанай з гэтай установай, лічыцца ледзь не маветонам.

– [...]

– Дарэчы. Ты ўсё яшчэ шукаеш свой... гук?

– Адчапіся, я ўжо ўсё напісаў пра гэта.

– Чакай, мне падавалася, што пра гэта пісаў я.

*(абодва — у бок залы):* — Не, т(Т)ы гэта бачыў?..

**) лір. адступленне №2**

*(па-за)*
*дотыкам і ноччу*
*снегам і ліхтаром*
*мной і табой*
*інь ян і*
*раздзеленай пароўну яечняй*
*джапай і вусенем*
*агнямі Кастанэды і*
*трэцяй крыштальнай нагой*
*попелам і думкай*
*лістуюцца*
*пустэльнікі*
*зімы (*

е. выводзіў кончыкам пантофля гіерогліф супакою пад лавай, калі намацаў яшчэ адну накрыўку; нахіліўся, падняў, пачаў прыладжваць яе на далоні і тут заўважыў, што такога піва яны не пілі. Ён схаваў накрыўку ў пляцак і прыціх, нібыта прыслухоўваючыся да чагосьці. Калі загаварыў b., е. прыпаліў, але не змяніў насцярожлівай паставы.

– Сустрэў быў знаёмага грузчыка з рынку. Нядаўна ён пачаў вазіць кропку з рознай усходняй байдой, ну, ведаеш, — смярдзелкі, звінелкі ўсялякія. А як прыйшоў час за тыдзень атрымліваць, аказалася, што поўны галяк з баблом — прастаяла яго гаспадыня амаль ухаластую. Хацеў быў на лічыльнік паставіць, але пашкадаваў — адна сына гадуе. Давялося таварам узяць. Набраў на дзесяць баксаў розных бразготак, а на халеру грузчыку тое барахло?

– На халеру?

– Ну, я ў яго тое-сёе на піва змяняў, а адну рэч дык за так атрымаў. Калі б ты з перкусіяй не завязваў...

– Яна ў цябе з сабой?

– Нашто табе?

– Пакажы, калі ласка.

b. дастаў з плецака новую бутэльку й акуратны пакунак, які перадаў е.:

– Дарэчы, ты ўсё яшчэ шукаеш свой гук?..

е. крочыў паўз кукурузнае поле, раструшчваючы пантофлямі маладыя кіяхі. Ён трымаў курс на самы высокі корпус РКПБ, дзе яго, пэўна, ужо чакала прыгожая й ветлівая медсястра з таблам *(«You take the red pill you stay in Wonderland...»*[1]*)*; «братва» з суседняга пакоя, што касіла ад войска на дурку, таксама

[1] Калі абярэш чырвоную пігулку, застанешся ў Краіне Цудаў... (*анг.*)

чакала «выязнога», каб разжыцца на цыгарэты. Чамусьці прыгадалася, як на перадабедавым шпацыры адзін чалавек вучыў яго, як пазбягаць пагоні: *«дастаткова проста напісаць на пачку запалак «prav»*.

На мяжы поля й навінкаўскага асфальту е. спыніўся. Ён агледзеў свае рукі *(«Адкуль у цябе гэтыя шнары на запясцях?»)* і разгарнуў Флейту Дажджу. е. ведаў, што яе гуку пазайздросціў бы сам сіньёр Карлас. І ён вымавіў: «Гоўранга» (што ў перакладзе азначала нешта кшталту: *«Хопіць наноў будаваць на старых касцях. Горад пачнецца з сэрца»*).

Дождж, які, нібы праз цэлафан, дасягаў яго слыху, быў першым, што ён убачыў, калі расплюшчыў вочы.

*2003*

# Казюлька

*(Балеро)*

**1**

Я іду. Іду адкульсьці дадому або наадварот — з дому на трамвайны прыпынак. Штодзень адным і тым жа маршрутам, па сваёй нябачнай сцежцы, след у след. Ва ўнутранай кішэні плэер круціць кружэлку, абарот за абаротам, нібы частка майго арганізма. Дарэчы, не важна, ці ёсць ён там. У скронях усё адно тое роўнае барабаннае сола.

Але вось я іду. Ногі механічна крочаць, трымаючы рытм, рыхтык на бегавым трэнажоры *treadmill*. (Хада на месцы да наступнага старту; да наступнае страты; да наступнага Сартра; да прозы паразы...) У руху поруч пазнаюцца знаёмыя дэкарацыі горада, з яго казюлькамі і стракатай лістотай, што хаваюць навакольнае ўбоства. Абрыўкі восені. Спыняюся, каб падкурыць, і тут заўважаю, што іду.

*Я* іду? Не, гэта нехта іншы, той-які-не-спыняўся. Ногі механічна крочаць, трымаючы рытм... А я гляджу яму ўслед паўз каламутнае покрыва змяшанага са снегам цыгарэтнага дыму.

**2**

Было цёмна. Як заўсёды, кожнага разу ў такую лютаўскую ноч, калі глядзіш. Праз акно.

*– Што гэта за чырвоная кропка там, насупраць?*

*– Нехта курыць.*

*– А чаму не спіць?*

*– Ён заўсёды позна кладзецца.*

Марыс запаліў настольную лямпу. Тры гадзіны. Перад ім ляжаў чысты аркуш паперы. Марыс выключыў лямпу. Пайшоў снег. Ліхтар за вакном добра асвятляў рух сняжынак. Як заўсёды. Ён увапхнуў астачу цыгарэты ў перапоўненую попельніцу. Затым што было моцы дзьмухнуў у яе. Попел узняўся вялізным бясформенным шарам і пачаў павольна апускацца долу. Як снег.

Марыс зірнуў у вакно, дзе пад распоратым сеннікам-небам жаўцела старая алея, і ўздрыгнуў. У адным акне ў доме насупраць гарэла святло.

«Дзіўна», — чамусьці ўслых сказаў ён. Раптам тое святло згасла, але тут жа ўключылася. Зноў згасла — і ўключылася. І так некалькі разоў, у адным сінкапаваным рытме.

*– Цікава паглядзець, што ў яго там, на паперы...*

*– Ты нічога не ўбачыш. Ён піша стрыжнем, які даўно скончыўся.*

**3**

Усю раніцу Казюлька стаяла на мосце і глядзела то на лёд, то на кончык сваёй цыгарэты. Яна амаль нічым не вылучалася сярод іншых: старэнькае паліто, шэры шалік і г. д. Хіба што твар пасінеў ад марозу. Вось ужо з гадзіну Казюлька проста стаяла, бо курыва скончылася, а Гуру ўсё не было. Вядома, ён мог сустрэць яшчэ каго-небудзь. Відаць, так і ёсць. Але ён

абавязкова прыйдзе, бо Гуру ўмее трымаць слова. Ён ніколі нічога не забывае, у адрозненне ад большасці. Усе паважаюць яго за гэта і заўсёды вітаюцца (нават калі стаяць на мосце).

Казюлька аўтаматычна засунула руку ў кішэнь, шукаючы пачак, якога, натуральна, там не было. Але на самым дне яна намацала некалькі каменьчыкаў, дастала іх і паднесла да вачэй, каб разгледзець. Нічога цікавага, звычайныя каменьчыкі. Хутчэй за ўсё засталіся з восені, калі не было лёду й можна было кідаць іх у ваду, назіраць за супакаяльнымі коламі на шэрай роўнядзі... Казюлька расціснула кулак, і каменьчыкі глуха стукнуліся аб лёд, стварыўшы раптам кола, што распаўзалася ў дрыготкім паветры (а насамрэч — у блізарукіх вачах за запацелымі шкельцамі акуляраў).

Казюлька павольна спаўзала на брук, калі адчула знаёмы рэзкі пах нейкае духмянасці і хватку моцных рух пад пахамі...

– Добры дзень, Гуру, — млява прамовіла Казюлька, гледзячы ў прыемны добра паголены твар.

– Уставай давай, пакуль дупу не адмарозіў, — ласкава загадаў твар. — А курыва я не купіў, выбачай, бо шапік зачынены.

Казюлька працерла шкельцы і, развітаўшыся, паплялася прэч. Праз хвіліну пах духмянасцяў дагнаў яе.

– Чакай, куды гэта ты?

Казюлька пацiснула лядашчымі плячыма.

– Цыгарэтаў ты цяпер усё адно не знойдзеш, бо свята ж. На вось мае палі, заляжаліся з даўніх часоў. Я ведаю, што вы без курыва й гадзіны не можаце, самі такі быў.

Казюлька з удзячнасцю прыняла пачак (удзячнасць, разам з нікацінавай залежнасцю, ёсць адной з галоўных асаблівасцяў казюлек).

– Слухай, Гуру. А як ты зрабіўся Гуру? — нечакана (у тым ліку для самой сябе) запыталася Казюлька.

– Табе сапраўды цікава? — Гуру прымружыўся і задуменна паглядзеў некуды скрозь суразмоўцу. — Рэч у тым, братка, што я спусціўся да вас з зораў.

– ?..

– Жартую, жартую.

Адсмяяўшыся, Гуру працягваў:

– Калісьці я, як і ты, стаяў на мосце і глядзеў у зямлю...

– У ваду, — далікатна паправіла Казюлька.

– Ну так. І аднойчы я ўзняў вочы ў неба.

– І што ты ўбачыў? — запытала Казюлька, калі паўза зацягнулася.

– Ды нічога. Я пачуў. Мелодыю, ціхую, але пры гэтым аглушальную, як воплеск адной далоні. У мяне заклала ўвушшу. Я заплюшчыў вочы, але яна не змаўкала, бо мы былі аднае. Я сам быў гэтай Мелодыяй, адным з яе гукаў. Насамрэч, гэта ўсё і быў адзін толькі гук... Ды што гаварыць, калі гэта трэба пачуць.

– Я чуў, — ціха прамовіла Казюлька. — Гэта сапраўды немагчыма апісаць.

Гуру недаверліва ссунуў бровы й пэўны час моўчкі ўглядаўся ў Казюльчын твар. Калі да яго вярнулася звычайная паблажлівая ўсмешка, ён вымавіў:

– Я падазраваў. Толькі не магу ўцяміць, нашто трэба было прыкідвацца? Гэтыя панылыя шэрыя істоты, тупое быдла, што з увасаблення ва ўвасабленне ўпустую смуродзяць свет...

– Я не прыкідваюся. Я — Казюлька... тутэйшы... не з зораў. І я — той гук, тая Мелодыя.

– Яшчэ крышачку — і на адзін гук стане менш. Колькі ты сёння прастаяў на гэтым дзяўбаным мосце? Ведаю, што ў вас, то бок у іх, так не прынята,

але хадзем да мяне, тут недалёка, праз алею. Можа, удасца цябе адагрэць.

Яны ішлі па старой алеі, асвечанай затухаючымі ліхтарамі, з-за якіх яна здавалася жоўтай, ішлі, ахутаныя белым вэлюмам, што звісаў з распоратага сенніка-неба, і іхныя сляды, рассыпаючыся, змешваліся ў завірушным кружэнні снегу, — адзін, рухавы й гаманлівы, поруч з напоўненай незразумелай радасцю шэраю постаццю.

**4**

– А што, калі ёсць яшчэ нехта, хто глядзіць у неба й чуе Мелодыю?

– У сэнсе — нашую Мелодыю?

– А хіба ёсць іншая?

– Слухай, а што, калі мы толькі снімся яму?

– Ці — наадварот?

Казюлька глянула ў вакно:

– Што гэта за чырвоная кропка там, насупраць?..

**5**

Уваччу ўсё плыло; у скронях стукала роўнае барабаннае сола. Марыс расчыніў вакно. Калючыя сняжынкі, угрызаючыся, падалі на ягоны ўспацелы твар. Насустрач урачыстай духавой какафоніі, што ўварвалася з вуліцы, ён закрычаў: «Што, цікава? Чытайце, чаго ж вы?!»

Ён узяў са стала аркуш і пачаў ірваць. Яшчэ адзін. Ірваў моўчкі, на дробныя шматкі. Потым знік і зноўку з'явіўся са стосам чыстых аркушоў... Шматкі кружылі над начной лютаўскай вуліцай. Як снег. Але яны вылучаліся сярод сняжынак. На белай паперы добра вымалёўваліся абрысы літараў.

# Чароўная крэйдачка

*Казка*

Хаця пасля ў розных справаздачах аб прафілактыцы правапарушэнняў і нават у адной забаўляльнай педарачцы пад назовам «Зона Ха» (што займае найвышэйшыя месцы ў рэйтынгу любові глядацкай) тое прадстаўлялася як загадзя спланаваная дэструктыўная акцыя па дэстабілізацыі абстаноўкі на выспе спакою ды стабільнасці, насамрэч усё адбылося досыць спантанна...

Быў файны суботні красавіцкі ранак (нягледзячы на ажно тры прыметнікі запар, лепшае фразы для пачатку нашае гісторыі знайсці немажліва). Сямейства ***вічаў, паснедаўшы, выправілася на шпацыр. Неба было яснае, паветра празрыстае. Толькі адкульсьці злева спакваля насоўвалася пакуль невялікая шэрая хмарка.

Яны ішлі, паўз некалькі дзіцячых пляцовак з горачкамі, арэлькамі й нават адным самалёцікам, паўз шапік з марозівам, паўз скверык з застылымі ў радэнаўскіх асанах бабулькамі на лавах, паўз збегі іншых шыпячых і свісцячых, — маленькая Ганулька ў вазочку, мама, тата і старэйшая Волечка поруч, — покуль не апынуліся на шырокім ходніку вуліцы імя аднаго вялікага паэта.

Мама ўбачыла крамку, што вабіла шалёнымі зніжкамі, намаляванымі наўскасяк шыбінаў, і вырашыла забегчы ў яе. «Усяго на пяць хвілінак, дарагі!» Тата ведаў гэтыя «пяць хвілінак», але нічога не сказаў, а толькі глыбака ўздыхнуў.

Ганулька й Волечка засталіся з ім. Волечка хацела была пайсці з мамай, але тата нагадаў ёй пра *чароўную крэйдачку*, што ляжала ў кішэні ягонага пінжака (ну, вядома ж, гэта была самая звычайная крэйда, набытая ў самым звычайным канцылярскім аддзеле самай стабільнай краіны сусвету, але Волечка цалкам давярала тату. Яна ж ведала, што тата ніколі не маніць, пра што ён перыядычна нагадваў, а тонкім майстэрствам маны-на-мяжы яшчэ не авалодала. Зрэшты, вядома таксама, што раз на год і палка страляе).

У вазку ў пластмасавым вядзерцы ляжала крэйда звычайная — чырвоная, памаранчавая, жоўтая, зялёная, блакітная. Ну і гэтак далей. І вось дзяўчаткі з апантанасцю маладых кукрыніксаў кінуліся размалёўваць ходнік.

Тата прысеў на бардзюр, назіраючы, як на ходнікавых плітачках з'яўляюцца малюнкі: матылёк, паветраны шарык, ружовая балонка, страказа, што сядае на гіганцкую кветку, — з-пад Волечкіных крэйдачак і рознакаляровыя калякі-малякі — з-пад Ганульчыных. Па небе плылі аблокі, па ходніку ішлі мінакі, і ў таты ўзнікла непераадольнае жаданне далучыцца. Да таго ж Волечка закрычала: «Татка, татачка! Дaставай чароўную крэйдачку, будзем літаркі пісаць! Чароўныя!»

З усіх кавалкаў менавіта белы быў чароўным. Дагэтуль яны ўжо некалькі разоў спыняліся ў розных дварах, і тата ўрачыста пісаў *магічнае* слова — на

ліхтарным слупе, на дзвярах закінутага гаража, на трансфарматанай будцы. Слова з трох літараў. Ён і сам не зусім разумеў, чаму яму раптам закарцела распісаць наваколле гэтымі трыма літаркамі, якія, нядаўна з'явіўшыся, паспелі ўжо набіць аскоміну. Гэтае слова можна было пабачыць на шматлікіх сценах — як рэальных, так і віртуальных. Гэтай абрэвіятураю стала модным казаць сцісլыя ды ёмістыя тосты. Вядома ж, ён не верыў у яе, гэтае абрэвіятуры, магічнасць. Тады на халеру пісаць? Пратэст дзеля пратэсту? Гэтыя няўцямныя маўклівыя пляскані ў ладкі... Абсурдовасць у імя змагання з навакольным абсурдам? Хіба што так.

Ён запусціў руку ў кішэнь пінжака, выняў загорнуты ў сурвэтку кавалак крэйды і вялікімі, двухметровымі, літарамі тоўста накрэмзаў на ходніку: . . .

• • •

Вера працавала ў газеце «Наша Віна». Фотакарэспандэнтам. Сваю дзіўную здольнасць яна заўважыла, калі ёй споўнілася дваццаць два. То бок, мажліва, дагэтуль нічога такога дзівоснага яна й не вырабляла. А можа — вырабляла, але папросту не заўважала. Ці, найхутчэй, — акурат разам з тым, як заўважыла і *паверыла*, — здольнасць гэтая і пачала актыўна праяўляцца... Зрэшты, ніхто не возьмецца адназначна казаць, ці сама яна ўсё тое рабіла, ці папросту мела такую наканаванасць — апынацца ў належны час у належным месцы. Дакладней, у неналежным. (Тое ўжо ёсць пытаннем веры, як у бясконцай спрэчцы між тымі, хто ў любым супадзенні бачыць знак альбо ў знаку — супадзенне. Тутака ж, праўда, гэтыя знакі/супадзенні мелі, так бы мовіць, сістэмны характар.)

Вось жа, Вера валодала здольнасцю апынацца там, дзе адбываюцца *Здарэнні*. Яе ўвесь час цягнула туды, дзе мусіла здарыцца нейкая трасца. Колькі яна пабачыла ДТЗ рознай ступені цяжкасці, колькі людзей сталага й маладога веку панаварочвалася на бананавых скурках альбо падледзянелым ходніку, колькі котак не мінула колаў аўто, колькі ледзяшоў... Зрэшты, ніхто не ведае. І яна не лічыла.

Адбываліся Здарэнні выключна ў той момант, калі Вера *проста кудысьці ішла*. Альбо *проста дзесьці сядзела*, занятая сваімі думкамі. Ці бавілася ўлюбёнай справай — глядзела на свет праз аб'ектыў здымача. То бок калі яна думала пра гэтае незразумелае насланнё (а няцяжка здагадацца, што думала яна пра яго цяпер заўсёды), то нічога не адбывалася. Праз тое колькасць няшчасных выпадкаў, стыхійных бедстваў ды іншых катаклізмаў вакол крыху скарацілася. Але варта было крышачку расслабіцца і, прыкладам, пайшоўшы пакарміць качак у парк, *забыцца*, як абавязкова хто-небудзь з мінакоў апынаўся ў вадзе.

«Можа быць, нада мной варонка?» — казала яна сяброўцы, крадком пазіраючы на неба.

«Ды не, проста ў цябе магніт у адным месцы», — рэзюмавала сяброўка.

Усё гэта доўжылася цягам восені. Узімку ж у яе суперстабільнай краіне пачаліся такія рэчы, якія ўвагналі Веру, і яе знаёмых, і знаёмых яе знаёмых у глыбокі ступар.

Вядома ж, ніхто не меў ілюзіяў адносна вынікаў чарговай элегантнай перамогі ў матчы на адну браму. Папярэдне, за некалькі дзён да, Вярхоўны гаўнакамандуючы асабіста агучыў патрэбныя адсоткі («прагноз» не спраўдзіўся, апынуўшыся кры-ышачку

заніжаным). Але з пэўнасцю мала хто чакаў, што рэчаіснасць па прачынанні на наступны дзень апынецца нагэтулькі жорсткай. Сем з дзесяцёх кандыдатаў на няскі сталец — за кратамі. Некаторыя — моцна збітыя. У якім яны стане і дзе хто знаходзіцца — невядома. Сотні людзей з паадбіванымі ныркамі ды выкручанымі канечнасцямі цягнуць суткі ў перапоўненых прамерзлых камерах...

Некалькі дзён пасля крывавай бойні, што адбывалася пад пільным наглядам чыгуннага Разенбома на самай вялікай плошчы самай стабільнай краіны свету, па горадзе ездзілі аўтазакі. Найпершай іх мэтай былі кватэры ды офісы праваабаронцаў, партыйцаў, журналістаў. Большасць незалежных інтэрнэт-рэсурсаў, у тым ліку сайт газеты «Наша Віна», альбо «ляжала», альбо працавала ў абмежаваным доступе. Па сацсетках папаўзлі чуткі, што вядомы паэт, адзін з галоўных апанентаў гаўнакамандуючага, стваральнік руху «Не вярзі лухту», сканаў у вязніцы...

А мо не чуткі? Чаму ж ужо тыдзень, як няма аніякіх звестак ні пра яго, ні пра астатніх? Чаму гэтак раз'юшана пырскае слінай з замбаскрыняў галоўны трыумфатар?.. Гэтыя «чаму» вярэдзілі Верчын розум, не адпускаючы ні ўдзень, ні ўночы. Варта заплюшчыць вочы, і нібы ў аб'ектыве здымача — кадры з Плошчы і з Праспекта. Шчоўк: ланцужкі людзей з розных бакоў, бы мурашы, суладным крокам сцякаюцца да *Саркафага.* Стаяць на святлафорах і, цярпліва прычакаўшы зялёнага, рушаць далей ужо невялікімі натоўпамі... Шчоўк — кадрык з праспектавага шэсця: высокі хлопчык-гот, там-сям папраколаты, у ботах ледзь не да калена, з доўгімі распушчанымі валасамі... Шпацыруе. Куды? Навошта?? Вера,назіраючы гэты

шматтысячны згустак эйфарыі, сама не дужа ведала адказу. А хлопчык-гот ведаў. Шырокі ўпэўнены крок. Позірк крыху паўзверх натоўпу. І такі... адухоўлены твар. Хоць ты абраз з яго пішы.

А пасля было збіццё.

Вера і раней бачыла разгоны мітынгаў, але гэтым разам, выглядала, далі адмашку біць фул-кантакт. Нібыта ў кагосьці, хто сядзеў за пультам кіравання ў сваім утульненькім фатэлі, ушчэнт сарвала разьбу ад такой колькасці няўдзячных васалаў. Вошаў блыхастых. Шалудзівай масы адмарозкаў. Пятае калоны, што разгойдваюць нашую выспу стабільнасці... І ён скамандаваў: *ату іх!*

І кожны ведаў, хто вінаваты. Хаця многія здагадваліся, што гэты нехта — следства, а не прычына. І што гаўнакамандуючага неабходна забіць, але — у галовах мільёнаў. Між тым практычнага дапаможніка пад назвай «Як забіць цмока ў сабе» на той момант яшчэ ніхто не напісаў...

У адрозненне ад усіх астатніх, Вера ведала адказ не толькі на пытанне, хто вінаваты, але і — што рабіць.

Яна пачала наведваць афіцыйныя мерапрыемствы, справаздачныя канцэрты заслушаных дзеячоў эстрады Рэспублікі Бульбарыя, прагульвацца каля адміністратыўных будынкаў, нярэдка пракладала свой маршрут паўз тыя ж вуліцы ды праспекты, дзе ездзіў картэж вялікага чорнага аўтамабіля. Аднойчы нават схадзіла на хакейны матч. Пасведчанне журналіста, здымач з доўгім аб'ектывам і чароўная прывабнасць, якую не падробіш і не прап'еш, адкрывалі перад ёй усе дзверы.

Вера не вельмі ўяўляла, што канкрэтна ёй трэба рабіць і што мусіць адбыцца. Але цвёрда ведала: нельга

*памятаць* пра сваю здольнасць у гэты момант. Толькі вось лёгка сказаць — нельга. Але як? Як суцішыць вірлівую плынь думак? Калі б яна была брахманам ці на скрайняк майстрам дзэн прасунутага лэвэлу, то праблемаў не было. Але ні брахманам, ні майстрам дзэн Вера не была.

Ды яна ўвесьчасна толькі й думала пра свой кляты дар і яго наступствы!

Адно добра: няшчасныя выпадкі перасталі здарацца. Зусім. І Вера пачала ўжо верыць, што са зікненнем сімптомаў знікла і хвароба.

Між тым прыйшла вясна. І вось адным файным суботнім красавіцкім ранкам Вера, прыхапіўшы з сабой здымач-люстэрка, рушыла на шпацыр па вуліцы імя аднаго вялікага паэта...

• • •

Волечка адразу ж змалявала таткаву абрэвіятуру. І хутка ўвесь ходнік уздоўж і ўпоперак быў распісаны гэтымі трыма літаркамі. А Ганулька скакала вакол, паўтараючы: «Сос! Сос!» (шыпячыя яна вымаўляць яшчэ не ўмела). І з цікаўнасцю зазірала ў вочы мінакоў. Яе вусны склаліся ў смешную грымасу — як заўжды, калі яна не ведала, ці ўсміхацца, ці павярнуць дужку смайліка ў адваротны бок.

З-пад крэйдачак Волечкі з'яўляліся зайчыкі, коцікі, сэрцайкі, вершнік з аголеным мячом, вясёлка, хвалістыя лініі якой утваралі страшэнна крамольнае спалучэнне з усяго двух колераў — чырвонага і белага. І ніжэй — забаронены дэструктыўны лозунг, які, належаў пяру яшчэ аднаго вялікага паэта.

Па плітачках ходніка, размаляваных чароўнымі літарамі і дзіцячымі графіці, цокалі, тупалі, ска-

калі, брылі, дыбалі боты, сандалікі, чаравікі, берцы, пантофлі... Прыгожая дзяўчына гадоў дваццаці са здымачом-люстэркам прыпынілася ля таткі з дзвюма дочкамі, апанаваных творчым імпэтам.

Вера (так звалі дзяўчыну), спытаўшыся дазволу, пачала фоткаць сімпатычную сямейку. Дзяўчаткі, перапэцканыя крэйдай, з задавальненнем пазавалі на фоне зайчыкаў-коцікаў-сэрцайкаў і дэструктыўных надпісаў на асфальце.

Яна так захапілася працэсам, што не адразу заўважыла, як пацямнела. Шэрая хмарка пераўтварылася ў нацягнуты на ўсё неба пірацкі штандар. Праезная частка апусцела. З-за рога выязджаў картэж вялікай чорнай машыны.

• • •

Валеры Іванавіч, як толькі сышоў снег і крыху падсохла, перабіраўся жыць на лецішча. Даглядаў сад, падкошваў газон, карміў напаўздзічэлых сабакаў, што прыходзілі да яго з навакольных вёсак. Прачынаўся з сонцам, рабіў зарадку, паліў і спяваў ваенныя песні. Ён быў палкоўнік у адстаўцы. Былы зенітчык. Прайшоў некалькі гарачых пунктаў. За В'етнам, разам з павышэннем, атрымаў чырвоныя «Жыгулі».

(У бардачку ляжаў афіцэрскі гадзіннік з гравіроўкай. Калісьці падчас маштабных аператыўных стратэгічных вучэнняў за ўзорную стральбу па ўмоўным супраціўніку ён атрымаў яго ад галўнакамандуючага. Праўда, не ўласнаруч, а праз пасыльнага. На гадзінніку быў герб, дзе на чырвоным тле імчаў вершнік з аголеным мячом — у бок умоўнага супраціўніка. Але, як толькі галўнакамандуючы

адчуў сваю моц і гэты сімвал змянілі, палкоўнік гадзіннік не надзяваў. Паклаў іх у бардачок, дзе ён і праляжаў пятнаццаць гадоў).

Аўто Валеры Іванавіч, як і ўсю сваю рухомую й нерухомую ўласнасць, трымаў ва ўзорным стане. Бліскучы храмаваны бампер. Ніводнай увагнутасці ці, крый божа, іржы па кузаве. Дагледжаны рухавічок з чысцюткімі правадочкамі й корпусам без ніводнае масленае плямы... І нумары яшчэ старыя, чорныя, памятаеце?

У сталіцу Валеры Іванавіч прыехаў па харчы — для сябе і сабакаў. Заскочыў на Камары — і назад, у бок сваёй Крыжоўкі, па Багдановіча (Валеры Іванавіч па старой звычцы казаў «Горкага»).

І вось едзе Валеры Іванавіч па сваім цэнтральным шэрагу (ён стараўся ніколі без вострай неабходнасці не займаць крайнія палосы), нікога не чапае, ды чуе — ззаду сірэна. Зірнуў у люстэрка — набліжаецца картэж: даішнікі, матацыклы, вялізны чорны лімузін... Валеры Іванавіч паказаў правы паварот, пачаў выкручваць стырно, і тут штосьці гучна шчоўкнула. З матора пацягнула гарэлай праводкай і з-пад капота шугануў белы дым...

• • •

У вялікай чорнай машыне, якую супраўаджаў міліцэйскі картэж, ззаду сядзеў чалавек. Ён абыякава пазіраў на горад праз моцна танаваныя й браняваныя шыбіны.

Куды ён ехаў гэтым файным красавіцкім ранкам? Нам тое невядома. Ды і сам ён ці памятаў, куды яго вязуць? Па ідэі, у аэрапорт — сустракаць не чужога

нам госця з сяброўскай краіны, дзе шануюць выспу стабільнасці і парадку.

Ён даўно прызвычаіўся да існавання ў рэжыме цэйтноту. Сустрэчы, выступы, брыфінгі, запісы, спартовыя спаборніцтвы. Даклады, справаздачы, звальненні, прызначэнні. Звычайныя клопаты звышчалавека...

Пасажыр вялікай чорнай машыны стаміўся. А вы думаеце, проста столькі год трымаць на сваіх плячах мір і спакой?.. Ён прыхінуўся да падгалоўніка і задрамаў.

Яму сніўся нейкі хакейны матч. Агромністая лядовая арэна, уся запоўненая гледачамі. Прычым бачыць ён яе спачатку зверху, агульным планам, нібыта на вялізнай плазме. Потым, як перад пачаткам тэлетрансляцыі, план пачынае хутка набліжацца і факусавацца на хакейнай пляцоўцы, а менавіта — на адным з брамнікаў. І тут жа карцінка пераключаецца так, што ён пачынае бачыць пляцоўку вачыма гульца. З боку брамы. Ён разумее, што брамнік — гэта ён сам. І насустрач яму нясецца форвард каманды супернікаў ва ўсёй амуніцыі. Раптам чалавек бачыць, што ён голы. Зусім. Як кол. І з усіх бакоў шчоўкаюць сполахі сотняў фотакамераў і глядзяць тысячы вачэй. Але замест таго, каб прыкрыць свой «кол», ён расстаўляе ногі на шырыні плячэй і робіць стойку футбольнага галкіпера, рыхтуючыся злавіць ці адбіць шайбу.

Між тым форвард ужо ў некалькіх метрах. Ён размахваецца клюшкай, і шайба ляціць проста ў нічым не абароненае пераноссе. У самы апошні момант брамнік паспявае прыгнуцца і ўхіліцца ад удару.

За брамай загараецца чырвоная лямпачка і раздаецца пранізлівы сігнал, які азначае, што шайба ў варотах.

Чалавек уздрыгнуў і прачнуўся ад віскату тармазоў і рэзкіх гукаў міліцэйскіх спецсігналаў.

Наперадзе, проста пасярод дарогі, зацягнутая белым дымам, стаяла чырвоная «капейка».

Картэж спыніўся.

«Чаму стаім?» — запытаўся ён у кіроўцы.

«Форс-мажор, таварыш Вярхоўны. Рухацца небяспечна».

Гаўнакамандуючы паглядзеў наперад. Сітуацыя была нетыповая. За васямнаццаць гадоў кіравання такое, бадай, здарылася ўпершыню. Вядома ж, можна было аб'ехаць гэтага карча. А раптам выбухне?.. Не, такі зыход быў бы непапраўнай стратай для ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва й моцна пахіснуў бы баланс сілаў у сусвеце. Служба аховы прыняла слушнае рашэнне: пачакаць.

• • •

Вера, як і шматлікія мінакі, бачыла, як загарэўся «Жыгуль». Як перад гэтым адзінокі аўтамабільчык, гнаны мігалкамі ды спецсігналамі, не здолеў саступіць дарогу картэжу.

З салона выйшаў сталага веку мужчына ў старэнькім, але чыстым ды адпрасаваным камуфляжы. У руках ён трымаў агнягаснік.

Вера зразумела: вось яно, пачалося.

І тут жа зразумела, што, пакалькі яна гэта зразумела, то ўсё і скончылася. Захопленая фатаграфа-

ваннем, яна забылася на дар. У выніку пацярпеў ні ў чым не вінаваты пенсіянер.

А пасажыру вялікай чорнай машыны хоць бы хны. І нішто яму не будзе за ўсе ягоныя злачынствы. Ну, не лясне ж па ім проста цяпер маланкай. Зараз патушаць пажар, і паедзе ён сабе спакойна далей — сустракаць кагосьці ў аэрапорце.

Да палкоўніка ў адстаўцы падбеглі міліцыянты з картэжу. Паглядзелі, што вялікай небяспекі няма. Хуценька дапамаглі *ўстанавіць і ўстарананіць прычыны ўзгарання*. Праводка, маўляў, дзесьці прасіфоніла й дала іскру. (Валеры Іванавіч пасля, па вяртанні з допытаў, на гаражным кансіліуме казаў: «Якая лухта! Я ўсе правадочкі мяняў нядаўна ўласнаруч. Містыка нейкая».

Палкоўнік у адстаўцы сеў у аўто, адкрыў бардачок, дзвюма пальцамі дастаў гадзіннік, узяў сцізорык і надрапаў штосьці на адваротным баку — паўзверх гравіроўкі. Мы не бярэмся сказаць з пэўнасцю, што дакладна, але ёсць дадзеныя, што гэта было ўсяго тры літары. Палкоўнік папрасіў міліцыянтаў перадаць гадзіннік пасажыру чорнай машыны.

Раптам маленькая Ганулечка, якая ўвесь гэты час глядзела то на тату, то на Веру, то на чорнае аўто, нібыта штосьці ўключылася ў ёй, як закрычыць: «Сос! Сос!!»

І старэйшая Волечка падхапіла, толькі ўжо з шыпячым замест свісцячага на пачатку слова.

І Вера — чаго ўжо ёй было губляць — далучылася. Ды яшчэ і ў ладкі пляскаць пачала.

І ўся шматлюдная вуліца імя Паэта таксама пачала крычаць гэтае слова і пляскаць у ладкі.

І нават пасажыр чорнай машыны, ахоплены ўсеагульным парывам, пачаў хлопаць у ладкі і крычаць. Ну а як? Ён жа з народам. Ды ён і ёсць народ! Толькі гэтага ніхто не пабачыў.

У гэты час з крамы выйшла ў меру ашчасліўленая матуля з новым пакецікам. Яна паглядзела на ўсё гэта — на задымлены «жыгулёнак», картэж чорнай машыны, размаляваны ходнік і дзетак на ім, што крычалі ў бок чорнай машыны слова з трох літар, і падышла да таты, які паціскаў плячыма і ніякавата пасміхаўся.

«Ну вось, я ж так і ведала, што нельга вас і на пяць хвілін адных пакінуць!»

Даволі хутка, *аператыўна*, адкульсьці з'явіліся з тузін аператараў-блізнятаў з пракіслымі фізіяноміямі і аднолькавымі кішэннымі камерамі. Ну, вы ведаеце...

(На гэтым месцы аўтар раптам зразумеў, што ён памыліўся з жанрам. Не, ён так і не зразумеў, які жанр ягоны. Але гэты — дакладна не ягоны. Бо дзе ж вы бачылі казку на 19 тысяч знакаў з прабеламі? І як быць з мараллю?)

І вось тут, па ўсіх законах жанру, мусіў бы пайсці дождж. Сапраўдны патоп, які змыў бы і крэйдавыя словы ды іншыя *вешчдокі* на ходніку, і ціхароў з мянтамі, і гаўнакамандуючага з яго картэжам...

І дождж насамрэч пайшоў. Вера хуценька закрыла аб'ектыў здымача. Палкоўнік зачыніў капот сваёй ластаўкі. І відэааператараў кудысьці змыла. Толькі вось картэж чорнага аўтамабіля з пасажырам у ім не знік.

Пасажыр чорнай машыны трымаў на далоні афіцэрскі гадзіннік з белым вершнікам на чырвоным тле. Прычым — вершнікам уніз. Ён глядзеў на тры літаркі, надрапаныя сцізорыкам паўзверх драпіроўкі

«За верную службу Айчыне». І надрапана там было зусім не «шос».

А Вера назаўтра пайшла ў пашпартны стол і, выйшаўшы з яго, займела новае імя — Воля. І хочаце верце, а хочаце не — але ўся гэтая трасца з няшчаснымі выпадкамі спынілася.

Ну, а аўтару застаецца зрабіць адзінае, што можа ў гэтай сітуацыі зрабіць сумленны аўтар, — папрасіць прабачэння. Даруй, чытачу, за тое, што на першай старонцы я табе схлусіў. Гэта была самая сапраўдная Чароўная Крэйдачка.

То што — памалюем?!

## Цітры

*(Дыптых)*

*Дзіўная рэч — успаміны. Асабліва згадкі дзяцінства. Гэтыя часам стракатыя, часам бясколерныя сполахі памяці... Гэты погляд адначасова і знутры, і збоку.*

***Вяртаючыся** ва ўспамінах у мінулае, мы згадваем сябе такім чынам, быццам бы ўжо тады й захоўвалі, адкладалі гэтыя відэашэраг для таго, каб пасля ў пэўны момант яго згадаць, праглядзець на ўнутраным прайгравальніку. У які момант? Ці не ў той — самы адказны ды апошні...*

*Аднойчы я бачыў сон, які скончыўся цітрамі. Магчыма, і жыццё зямное ў фінале будзе мець штосьці падобнае — такі сабе спіс-пералік усіх дзейных персанажаў. Ад галоўных роляў да другасных і эпізадычных. Магчыма, у канцы будзе стаяць імя Рэжысёра.*

*Ну і няблага б, каб усё гэта суправаджалася якойсьці добрай музыкай.*

### Здрада

Часам, слухаючы музыку, згадваю дзяцінства. Часам, згадваючы дзяцінства, чую музыку. Як саўндтрэк да калісьці бачанага фільма. Вось і цяпер...

Я згадаў гэты эпізод свайго дзяцінства, пачуўшы нейкую выпадковую мелодыю з нейкае выпадковае стужкі. Гэта быў фільм, што здымаўся, *каб расчуліць*. Дзе ўсё было зразумела з першых жа кадраў, дзе

фінал набліжаўся плаўна й пагрозліва, бы айсберг да акіянскага лайнера (вядома ж, насамрэч гэта лайнер набліжаўся да нерухомай белай глыбіны, але нам, тым, хто *стаіць* на борце, гэта бачыцца так). Дзе кожны сцэнарны ход, што трашчаў грубаватымі шыўкамі, бы кашуля галоўнага героя ў фінальнай сцэне, быў прадвызначаны гэтай адзінай, прапісанай у праектных заяўках і падлічанай у шматлікіх кашта-рысах мэтай — прымусіць гледача выйсці з кіназалы з вільготнымі вачыма...

(Трэба сказаць, што я не аматар глядзець кінафільмы дзеля задавальнення мазахісцкіх патрэбаў. То бок дзве гадзіны ўтыркаць у панылую падзёншчыну, каб упэўніцца, што і гэтым разам здымачная група цябе... ну, падманула.)

Але гэтым разам ім удалося мяне расчуліць. У нейкім тупым ступары, безуважным здранцвенні, адстароненым бяздум'іназіраў я за тым, што адбываецца на экране. Я глядзеў і не бачыў. Слухаў і не чуў. Праўдзівей, амаль не сачыў за рэплікамі, але ішоў следам за гукавым шэрагам. Фактычна, гэта было праслухоўванне фонавай музыкі, толькі не як фону, але як асноўнай тэмы. Фонам была кінадзея...

Вядома ж, той, хто пісаў саўндтрэк да фільма, фармалёва быў саўдзельнікам Хлусні. Але толькі фармалёва. Увесь фальш, нацягнутасць, непраўдзівасць, белымі-ніткамі-прашытасць датычыліся дзеі, але не музыкі. І галоўнае: я здрыгануўся ад забытае й даўно пагрузлае ў зарослых сцежках памяці згадкі...

Гэты мой успамін — пра двор. І пра першыя слёзы. Слёзы, не звязаныя з болем ці з нейкім вонкавым раздражняльнікам; яны не мелі на мэце ўплыву на бацькоў ці бабуляў. У той жа час успамін гэты і не

пра слёзы асэнсаваныя, выклiканыя, так бы мовiць, галавой, слёзы, да якiх я *дадумаўся* (аднойчы перад сном, гады ў чатыры, я зразумеў, што калi-небудзь памру, i доўга таемна плакаў)... Ён — пра слёзы, спароджаныя нейкiм органам, якi я не вазьмуся вось так наўскiд вербалiзаваць.

Так атрымалася, што ў нашым двары не было маiх раўнагодкаў. Былi толькi цi старэйшыя хлапцы, цi меншыя. Вядома, гарнуўся я да першых. I, што дзiўна, яны мяне прымалi амаль як роўнага.

Калi табе сем, то дзевяцiгодка-трэцякласнiк падаецца недасяжна вялiкiм, дасведчаным, словам, крутым. А дванаццацiгадовы — напаўбогам.

Васьмiпад'ездавы дом, утвараючы лiтару «П», — па адным пад'ездзе ў тарцах i, адпаведна, з шасцю ў папярэчыне — меў пяць паверхаў плюс гарышча. Апошняе ўвiшныя жыхары вышэйшых паверхаў пры канцы 80-х прыватызавалi, значна пашыраючы свае жылплошчы, дзеля спартзалы, майстроўнi цi проста дадатковых пакояў. Гэтак жа зрабiў Дзёнеў бацька.

Дзёня быў старэйшы за мяне на пяць гадоў. I ён быў завадатарам усiх нашых, як бы сёння сказалi, ролевых гульняў (якiя мне, пасля нудотных сястрынскiх дочак-мацi, акурат-такi гульнямi не здавалiся).

Дзёня ўвесь час нешта майстраваў, вынаходзiў, хiмiчыў, i яго вынаходнiцтвы заўжды былi паспяховыя. З дапамогай помпы для ровара рабiў «вадзушкi» (стралялi дробам, што прадавалiся ў рыбацкiм аддзеле спорттавараў); з ключа й запалкавага фосфару — пугачы; з медных пласцiнаў выразаў трох- i пяцiкапейкавыя муляжы адпаведнай таўшчынi: «пятакi» прымаў турнiкет у метро, «трохi» — аўтамат з газiроўкай i «крэм-содай» (апошняя залiвалася ў пластмасавыя маслёнкi сiняга колеру, што выкары-

стоўваліся ў якасці аблівалак; трапіўшы ў вочы, такі зарад прыносіў нямала клопатаў непрыяцелю). Дзёневы бумерангі з тоўстага кардону былі дасканалымі й вярталіся дакладна ў рукі.

Ён любіў, калі мы называлі яго Вялікім Камбінатарам і, здавалася, ведаў на памяць несмяротны твор Ільфа і Пятрова. Падобна да таго, як у 60-я Новы Запавет засвойваўся *чырвонымі чалавекамі* па булгакаўскай версіі жыццяпісу Хрыста, гэтак я цытаты славутых адэсітаў пачуў і завучыў задоўга да знаёмства з арыгіналам.

Мянушкі іншым хлопцам з нашага двара прыдумаў таксама ён. І ўсе былі на сто адсоткаў трапныя. Вось жа, у нашым таварыстве былі: Шура Балаганаў (руды бамбіза-перарастак, ён і насамрэч зваўся Шурам і з дзяцінства меў бандзюгаватыя схільнасці), Панікоўскі (*в миру* Міша, вялікі аматар паенчыць і паскардзіцца на гаротны лёс), Казлевіч (хлапец, які хадзіў у карычневай пакамечанай скуранцы і клетчатым кепурыку і меў сантымент да ўсяго, што рухаецца з дапамогай педаляў ды стырна). Мяне, самага малодшага, ён ахрысціў Аляксандрам Іванавічам Карэйкам...

Жыхары двара, якія ў нашую кумпанію не ўваходзілі, былі ўганараваныя неўразумела-бляклымі мянушкамі, накшталт Бярлагі ці Скумбрыевіча.

Я ж называў Дзёню Дынем. Мы жылі з ім у адным пад'ездзе. І, гледзячы з сённяшняе перспектывы, я разумею, што гэта быў мой першы настаўнік. А можа, і так: першы Настаўнік. Тады ж я, вядома, нічога не чуў пра тое, што вучнёўства — працэс двухбаковы, і ні пра што такое не думаў, але разумеў: мне неверагодна пашэнціла, што мы жывём у адным пад'ездзе. Страшна нават падумаць, што было б, калі б я патрапіў у іншы. Напрыклад, у другі ці першы...

Вось жа, падзел тэрыторыі ў нашым двары і хаўрусаванне адбываліся акурат па пад'ездавым прынцыпе: з першага па чацвёрты — яны; з пятага па восьмы — мы.

Прычыны варажнечы мне былі невядомыя. Кшталту, хто першы пачаў... Хутчэй за ўсё, ніякіх значных прычынаў і не было. Ну, максімум — фармалёвае забойства аўстрыйскага эрцгерцага...

Для мяне стан халоднае вайны быў ужо дадзенасцю. То бок калі нешта і адбылося, то яно адбылося да мяне і было нагэтулькі агульнавядомым, што пра яго ніхто ніколі не згадваў. А мне самому было як бы няёмка і запытваць, чаму, хто ды навошта. Я ведаў, што *тыя* — нашыя ворагі. Вось і ўсё. Ну і, натуральна, на другую палову двара стараўся не совацца, хоць мне як малечы пузатай і можна было. Але ж хто хоча лічыцца малечай, асабліва ў сем год?!

Сем год мне споўнілася ў жніўні, і школа насоўвалася непазбежна, што той айсберг. Пры канцы месяца, калі двор вяртаўся ў горад з летнікаў, лецішчаў, вёсак ды мораў, пачыналася актыўная стадыя падрыхтоўкі да баявых дзеянняў. Быў прызначаны час ікс. П*а*ры байцоў ці, як бы цяпер сказалі, спарынг-партнёры, былі вызначаны загадзя паводле ўзроставых, фізічных ды іншых тактыка-тэхнічных характарыстык.

Маім супернікам меўся стаць Віталька. Ён быў аж на паўтара года старэйшы. Але меў маленькі рост, хударлявы целасклад. Карацей, здыхлік. Па ўсім, я без цяжкасцяў мусіў пакласці яго. Толькі вось... не тое што дрэйфіў. Штосьці жорсткае было ў яго твары, у яго вачах. З такім позіркам ён мог нават ударыць у твар.

Ударыць у твар. Хлопчыкі дзеляцца на дзве групы: тыя, хто можа, і тыя, хто не можа ўдарыць у твар (пры гэтым атрымаць у твар можа любы). Я ўдарыць не

мог. Да таго ж Віталька быў сірата, жыў з бабуляй. Казалі, што яго бацькі загінулі ў аўтакатастрофе. Гэты факт рабіў Вітальку істотай з іншага свету. Я разумеў, што мушу з ім біцца. І мітуслівае ўяўленне ўвесь час малявала гэты двубой...

Вось жа, на кожнай палове двара ішла падрыхтоўка. Выпрацоўвалася стратэгія бою. Абмяркоўваліся слабыя і моцныя бакі супернікаў. Атточваліся прыёмы. Мішка Панікоўскі зрабіўся вельмі сур'ёзны, сабраны, як ніколі. Яму дастаўся хлапец і старэйшы, і дужэйшы. Я бачыў, што ён пабойваецца. Дыня даверыў яму падвучыць мяне (захват, падножка, кідок). Шура Балаганаў быў узрушаны і знаходзіўся ў эйфарыі чакання. Наш Камандор, як і належыць, быў спакойны, сабраны, вясёлы. Ён з Шурам хадзіў на перамовы ў варожы штаб. На Камандоры былі франтаватыя белыя штаны ў клетку — амаль такія, у якіх шпацыруюць па Рыа-дэ-Жанэйра...

Не памятаю, па якой прычыне я спазніўся, але далібог не наўмысна. Кудысьці ездзілі мы з бацькамі і, калі зайшлі ў двор, я адчуў адначасова і здрадлівую палёгку, і сорам. Як пішуць у добрых кнігах, чырвань заліла шчокі. Апусціўшы вочы, подбегам шмыгнуў у пад'езд следам за дарослымі. Літаральна паўпозірку, кінутага на поле бою, хапіла, каб цалкам зразумець абстаноўку: білі нашых.

Пасля, падышоўшы да вакна, я прымусіў сябе ўсё ж крыху паглядзець.

У адсутнасць мяне Міша ўзяў на сябе Вітальку-сірату, але барукаўся зусім не так упэўнена, як вучыў мяне на трэніроўках. Шура па-баксёрску скакаў вакол свайго цыбатага суперніка. А Дыня... Дыня біўся адразу ж з двума. Хаця «біўся» крыху не тое слова. Адбіваўся, лежачы на зямлі, прыціснуты хлапцамі з

трэцяга пад’езда. Ногі ў бэндараўскіх нагавіцах рабілі рухі па коле, марна намагаючыся вызваліцца ад моцнай хваткі.

Маці, праходзячы міма, спалохана спытала, чаму я плачу. Я хуценька адвярнуўся ад акна і схапіўся за жывот. Маці спалохалася яшчэ больш і паклала мяне ў ложак. Fin. Цітры.

Мне было сорамна глядзець у вочы хлопцам. Асабліва Дзёню. На заўтра я маладушна прызнаўся, што ўсё бачыў, і схлусіў, што бацькі мяне не адпусцілі на двор. Ніхто з хлопцаў не выказаў пагарды. Бітва канчаткова акрэсліла нашыя ролі: іх як герояў і мяне як смаркатай малечы. У Дзёні пад вокам свяціўся «ліхтар». Я спытаў, ці баліць. «Ды ну! Тое, што я быў знізу, яшчэ нічога не значыць. Я ім таксама добра наваляў, не хвалюйся».

І ўсё ж добра ўгадаў Дзёня з мянушкамі. Бандзюгаватыя схільнасці Шуры прывялі яго ўрэшце туды ж, куды і яго літаратурнага прататыпа. Сам Дзёня, як толькі скончыў універ, з'ехаў. Хоць і не ў Рыа-дэ-Жанэйра, але на той жа кантынент. Ну, а мне, як і грамадзяніну Аляксандру Іванавічу Карэйку, даводзіцца мець дзве паловы жыцця, з дзясятай да чацвёртай выяўляючы з сябе сціплага выкладчыка адной экзатычнай мовы, каб з чацвёртай да дзясятай... Зрэшты, гэта ўжо, як пішуць у добрых кнігах, зусім іншая гісторыя.

## Сорам

*(вядома, ёсць учынкі, можа, больш глабальныя, пра здзяйсненне якіх варта было б шкадаваць, але вось гэты ўспамін 15-гадовае даўніны гняце й выклікае ў мяне пачуццё сораму дасюль. як нішто іншае)*

Прамінуў сёмы клас (самы дурны час — калі не зразумела абсалютна, хто ты, што й куды...). Канец жніўня й, адпаведна, вакацыяў. (Трэба сказаць, што свой дзень народзінаў за ўсё школьнае жыццё я ні разу не сустракаў у бетоннай вязніцы, а пераважна на якой рэчцы ці возеры...) Вярнуўшыся ў горад-хорар, атрымоўваю тэлефанаванне ад сябра, з якім мы былі не разлі вада з другога класа. «Ты тут? То мы зараз да цябе зойдзем». «Мы» — гэта ён і другі мой найлепшы сябра Саша.

Званок у дзверы. На парозе Коля й Саша, хаваюць рукі за спінай. «Што там у вас?» — пытаюся. Яны ўрачыста дастаюць і працягваюць мне скрыначку з тортам. «Мы тут гэта, на чаёк...» — бачачы маё неўразуменне й тое, што я дасюль трымаю іх на лесвічнай клетцы. А я так і стаю перад дзвярыма, не пускаючы іх у кватэру... І штосьці са мной здараецца. Я раз'юшваюся й кажу ім, нібыта яны да мяне жыць просяцца: «Які на фіг чаёк? Чаму загадзя не папярэдзіць было?» і г. д. Яны лыпаюць вачыма: «Дык гэта.. Хацелі сюрпрыз зрабіць». Карацей, не адбылося ў нас чаявання...

Цяпер, спрабуючы патлумачыць свае свінскія паводзіны, знаходжу ім тлумачэнне. Няёмкасць... перад бацькамі. Чамусьці мне было няёмка, што да мяне прыйшлі не папярэдзіўшы. Так нас выхоўвалі. Цяпер я разумею, што маці (якая ў гэты момант рабіла прыборку ў хаце) нічога б не сказала, а, наадварот, парадавалася б... На той момант торт здаваўся мне чымсьці шыкоўным, а мяне ж вучылі не прымаць ад сяброў *каштоўных падарункаў*, маўляў, няёмка, гэта абавязвае да адпаведнага адказу...

Гэтак я страціў сваіх лепшых (і, думаю, самых адданых) сяброў.

## Уцёкі

Адзінота — не зусім тое ж самае, што калі сам-насам з сабою.

Бывае, што сам-насам пачуваешся, як у найлепшым таварыстве.

Адзінота — не тое, ад чаго спрабуюць уцячы, абклаўшыся дзецьмі, жонкамі, месцамі працы, прыручанымі жывёламі ды рознымі абавязкамі. Толькі той, хто не бачыць, верыць у эфектыўнасць такіх уцёкаў...

Адзінота — тая адзіная нота, знайшоўшы якую, рыхтык спявак сваю манеру альбо падарожнік у снах свой інгрэдыент, — ужо не злезеш з яе.

## Зваротная форма

Цалуючы сына перад сном, злавіў сябе на нечаканай думцы, быццам цалую сам сябе. Ну, той быў у гарэзлівым настроі, і я быццам убачыў трохгадовага сябе на чорна-белых фотаздымках...

Хаця, калі на секунду задумацца, дзеяслоў *цалаваць* мае зваротную форму: цалуешся (т. б. цалуеш сябе), кахаешся і г. д. Т. б. калі кагосьці кахаеш, то кахаеш праз яго й сябе.

З іншага боку — *сябруеш/варагуеш* не мае зваротнай формы... (шматзначна падымае ўгару ўказальны палец).

## Можа быць

Бацька — у джынсавых кепцы, куртцы, портках — цягне сына ў садок. Моцна трымае за запясце. Падцягвае да ўваходных дзвярэй, на секунду расціскае далонь, каб запусціць дзіцёнка ў праём. Штуршок у спіну, каб не зніжаць тэмпу...

Яны ў фае, кайданкі далоні зноўку сціскаюцца. Бацька цягне сына па лесвіцы на другі паверх. Сын асабліва не ўпіраецца, толькі тоненька енчыць: «Папа, папа, отпустии...» — «Отпущу, когда в группу зайдём», — прыглушана працэджвае бацька.

Бацька не мусіць спазніцца.

Дзіцёнак сядае, здымае боцікі, пераапранае штаны на шорты, нацягвае маечку й чэшкі (адразу пасля сняданку — рэпетыцыя ранішніка).

Бацька сыходзіць на працу. Пакінуўшы ў раздзявалцы пах сваёй парфумы й ружовы след на запясці сына.

Дзесьці там, за дзвярыма, у двары, на каналізацыйным люку, засталося пухнатае кацянё, так толкам і не разгледжанае. Там яшчэ шмат чаго засталося — не разгледжанага.

Можа быць, яно яшчэ будзе сядзець там, калі дзяцей выведуць на дзённы шпацыр. Можа быць...

# Восенішча

За драўлянымі сценамі дачнае хаціны — восень. Эльфійскім поступам цікаецца паўз намоклае лісце, далікатна шамаціць рызманамі яблыневых швэдраў, бліскучымі вачыма валацужных сабак назірае за крумкачамі, што выдзёўбваюць кісла-спелую абляпіху з распаранай зямлі, маруднымі казюркамі поркаецца ў крывавым ложку каліны...

Гэта не персаніфікацыя. Восень сапраўды жывая. І яна жыве на маім лецішчы. На маім восенішчы.

Ейны твар падобны да твару маёй маці, калі яна ляжыць колькі хвілінаў перад сном з расплюшчанымі вачыма.

Яна гэткая ж жывая, як сусед — стары вайсковец, што адзін сядзіць тут да самых маразоў. Прачынаецца а пятай, робіць гімнастыку, падкормлівае валацужных сабак і выпальвае па два пачкі за дзень. Яны гаспадараць удваіх — стары і восень...

Пры канцы лета бухі старшыня дачнага таварыства за дзве пляшкі замовіў бульдозер, які разрыў зарослую сажалку, каб прыдаць правільную геаметрычную форму. Цягам дзесяці гадоў людзі абсаджвалі яе дрэўцамі, запускалі карасіную драбязу. Цяпер сажалка мае правільную геаметрычную форму. Праўда, вады ў ёй — па глізн*у*. Сусед усё не

можа прывыкнуць да кучы зямлі й ламачча, што з'явілася акурат у яго пад акном, і зрэдчас мармыча сабе пад нос мацюкі на адрас гора-старшыні.

Палячы пад кволым вераснёўскім дажджом, адчуваю наперад цеплыню машыны, што хутка павязе мяне ў горад. За пяцьдзясят кіламетраў ад Восені. Яна ж застанецца тут. Яе не забярэш, нібы замерзлае кацянё з круглымі вочкамі з лесвічнай клеткі. І, цьмяна ўяўляючы свой цяперашні ўзрост — 22 ці 12? — уздрыгваю ад раптоўнага адкрыцця: *яна будзе чакаць*.

Еду, напоўнены ціхай урачыстасцю. З магнітолы спявае асенні гурт «ДДТ», у суладдзі з бонгавым дробатам дажджу (на сваёй клавіятуры ён выгруквае літары ў маёй галаве). З-пад слізгачоў злятае ліст каліны, што развітальным пацалункам прысмактаўся да ўспацелага шкла.

Кабета ў смешным ружовым дажджавіку робіць нязграбныя пасы са збочыны і разгублена ўсміхаецца, нібы просіць прабачэння за нешта. Спыніцца й забраць яе, прамоклую, з часночным пахам, і ўсю дарогу слухаць пра грады ды слоікі... Чырванеючы, імпульсіўна дадаю газу. У люстэрка задняга агляду кідае апошні дакорлівы позірк Восень.

# Згубленыя ў восені

*Тані*

Сёлета я не маю восені. Заўважаю, нават чую яе пах, але не маю. Восень маўклівымі дэкарацыямі праходзіць за шыбінамі аўто. Нібы на сеансе ў аўтакінатэатры, які зацягнуўся.

Жалезная скрыня на колах неяк неўпрыцям ператварылася ў маё другое жытло, што змяшчае ў сабе і страўню, і нават бібліятэку. Да нядаўняга часу — пакуль не пакінуў яе на гадзіну ля будаўнічага рынку (паблізу ад плакату, які настойліва заклікаў гэтага не рабіць) — змяшчала яшчэ й фанатэку... Цяпер езджу, падмармычваючы нешта сабе пад нос. Чамусьці найчасцей па маім унутраным радыё «круцяць» свежы альбом Арэф'евай.

Заўжды можна пазнаць аўто, якое сталася другім жытлом. Па гармідары на заднім сядзенні. Па перапоўненых попельніцах... З маёй попельніцы тырчыць пакецік з арахісам. Задняе сядзенне завалена кнігамі й будматэрыялам. Паміж ручнікам (у сэнсе ручным тормазам) і пасажырскім сядзеннем — бутэлька якойнебудзь газаванай бурды.

Ездзіць па Менску штогод усё весялей. Стоячы ў затор, назіраю, як адна спадарыня на навюткім «мэрсе»-кабрыялеце падразае нешта надзьмутае,

танаванае і бліскучае. Віскат тармазоў, і апошняе ўязджае ў «мэрсаў» азадак. Нямоцна. За рулём «надзьмутага» таксама апынаецца маладая жанчына. Яна падыходзіць да крыўдзіцелькі й штосілы б’е кулаком ёй у голаў (на бяду, праз спёку кабрыялет не накрыты). Затым пераможна сядае да сябе і з'язджае з месца ДТЗ...

Восень зрэдзьчасу прыходзіць да мяне на госці. Так, аднаго разу яна завітае на дзесяць хвілінаў разам з сябрам. Сябар прачытае новы верш пра кастрычнік і пакіне ў попельніцы недапалак. Сваю восень ён ашчаджае.

Але прычыны маёй страты восені (праўдзівей, *страчанасці ў восені*) — не ў двухмесячным Дні сурка, урытмаваным паміж працай і рамонтам. Рэч у тым, што гэтае восені не маеш і ты. Нашае першае восені...

Пад вокнамі твайго цяперашняга жытла, дзе ты ляжыш *на захаванні*, на асфальце, двухметровымі літарамі нехта напісаў: «*ДЗЯКУЙ ЗА СЫНА!!!*» Я ж прыношу табе букет з вільготнага кляновага лісця і складзены за стырном восеньскі верш.

*Кастрычнік 2005 г.*

# Прысутнасць (ТСЖ)

Вам напэўна траплялiся гэтак званыя тэхнікі спраўджвання жаданняў, якімі заспамлены інтэрнэт і засмечаныя пэўныя аддзелы кнігарняў (апошнія звачайна маюць гучныя назвы, кшталту «Эзатэрычная і тэасофская літаратура», насамрэч жа ім больш пасавала б менавацца аддзеламі «Ерасяў і апокрыфаў» альбо «Кутком займальнай казуістыкі»). Усе гэтыя дыягнаставанні кармы, выроўніванні аўры ды іншы фэн-шуй. Мы з вамі выдатна разумеем, на каго разлічана гэтае махлярства, і, кісла пасміхаючыся, прагортваем працы бяздарных вучняў Дона Хуана, Оша і Блавацкай, каб праз паўхвіліны грэбліва націснуць *Alt-F4* ці запхнуць брашуру на месца...

Дык вось. Гэтыя тэхнікі насамрэч дзейнічаюць.

Які базісны пастулат любой тэхнікі спраўджвання жаданняў? У вашага жадання не павінна быць тэрміну дзейнасці. То бок вы не можаце пажадаць, каб штосьці спраўдзілася заўтра. Ніякага будучага часу! Вы мусіце загадваць жаданне, быццам бы яно ўжо спраўдзілася. Падазраю, што ў ангельскай мове тут выкарыстоўваецца Present Indefinite. Нельга: «Я хачу машыну/кватэру/каханне-ўсяго-жыцця». Трэба: «Я маю машыну» і г. д.

Гэты фокус мае два бакі. Кожны, хто крытычна мысліць, разумее, дзе прыхаваны развод: паколькі мы не ведаем, калі нашае жаданне спраўдзіцца — цяпер ці ў чацвер, — то можам чакаць яго хоць да скону. Якія прэтэнзіі да тэхнікі? Чакайце — і *воздастся*. Шляхі вашага жадання невыказныя. Ну, і іншая падобная лухта.

З іншага боку, вакол вас дзясяткі разоў могуць здарацца цуды, а вы нават не зразумееце, *що це було*. Напрыклад, зрання вам патэлефануюць з садка, дзе ваша дзіцё званітавала. Сарвуць з працы. Парушаць усе планы на дзень. Ясна, што вы ідэнтыфікуеце гэты эпізод зусім не як цуд, але, наадварот, як засаду. Бо скуль вам ведаць, што праз паўгадзіны пасля вашага сыходу на працу прыйдзе кліентка з адназначнай мэтай паскандаліць і з'есці ваш мозг? Што пасля яе сыходу рэшткі вашага мозгу даесць яшчэ й шэф. А так — адкасілі ад працы, правялі цэлы дзень з дзіцём (сустрэлі ў восеньскім парку, густа засыпаным лісцем, рудавалосую прыгажуню ў яркім шаліку, якая пасміхнулася вам, а праўдзівей — вашай дачцэ, а дачка зрабіла выснову, што гэта быў не хто іншы, як сама Пані Восень). А тое лёгкае атручэнне назаўтра прайшло. Безмалочная дыета, яшчэ адзін дзень адкосу ад працы па бальнічным — а там і да выходных прасцей дажыць. Хіба не цуд?

Вось жа, убачыць цуд — гэта ўмець правільна інтэрпрэтаваць пэўную сітуацыю.

Якая верагоднасць сустрэць у менскім метро чалавека з кнігай на беларускай мове? Паводле апошніх даследаванняў, праведзеных незалежным інстытутам незалежных даследаванняў, — роўна такая ж, як і чалавека з кнігай на суахілі.

Нейкім — не хачу казаць фарысействам (бо фарысеі, можа, былі й не самыя горшыя чувакі) — нейкім цёмным снабізмам патыхае ад усіх гэтых фэйсбучных падзяк сусвету. «Дзякуй Табе, Сусвет, што зноўку пасылаеш мне Знак». Прычым няважна — добры гэта знак ці кепскі (ясна, што добры, ты ж любіш мяне, Сусвеце; мы з табой, Сусвеце на кароткай назе). *Тая машына, якая абліла мяне брудам зрання, — яна вярнула мне адчуванне сябе! Дзякуй, Сусвеце, я ведаю, што хутка і ў мяне з'явіцца новы мінікупер!*

Ясна, што кожны дзячыць за сваё. Хтосьці за павышэнне на працы, а хтосьці — што дзень перажыў...

Тэхніка спраўджвання жаданняў — плацэба супраць вусцішнасці жыцця, дэпрэсухі, матрыцы, што часам трашчыць па швах. Прыблізна тое ж можна сказаць пра любую рэлігію. Але, паўтаруся, усё гэта працуе. Бо акрамя першаснага, шарлатанскага (махлярскага) пласта ёсць і другі — насамрэч сакральны.

Галоўнае — стан, у якім ты апынаешся, і, у сухой рэшце, няважна, чым гэты стан свядомасці дасягнуты — сустрэчай чалавека з беларускай кнігай у метро ці верай у ТСЖ. Зрэшты, спроба знайсці гэты стан — прычына таго, што чалавецтва цягам свайго існавання сядзіць на рознай ступені цяжкасці драгсах. Вербальны спосаб дасягнення такога стану, бадай, самы складаны, але й самы лепшы, бо амаль не мае фізічных наступстваў (ломак, выхадаў і г. д.).

Бывае, прачнешся — і ўсё складваецца як мае быць. Усё, як кажуць, коціць. Своечасова прыходзіць ліфт, запальваюцца святлафоры, кіроўцы ветліва падміргваюць табе, калі ты саступаеш ім, і саступаюць табе пры павароце ў двор, дзе ты працуеш, і тамака ліфт ужо чакае цябе на першым паверсе; ты паўсюль паспяваеш, кажаш усё да месца, трапна жартуеш,

рухаешся, падуладны нейкаму ўнутранаму рытму, у слушным кірунку. Бывае, ты прачынаешся з веданнем, што ўсё гэтае ж-ж-ж нездарма. З адчуваннем сэнсоўнасці ўласных рухаў, словаў, думак...

Альбо, нібы Гары Потэр, які яшчэ не ў курсе, хто ён насамрэч, сустрэнешся позіркам з незнаёмым чалавекам на вуліцы і атрымаеш падбадзёрвальную ўсмешку...

Ці знаёмае вам гэтае адчуванне — адчуванне прысутнасці? Не проста на душэўным, але й на фізічным узроўні. Нібы цёплы вецер агортвае далоні, у якіх трымаеш аркушы (хаця ўсе форткі ў кватэры замкнёныя, рыхтык люкі ў падлодцы), і ад іх цеплыня распаўзаецца далей па целе — да ступняў і да лба...

«Творчество — затворничество» — занатавалася нейк у сваю дапісьмовую эпоху. Гадоў гэтак у трынаццаць? І пасля шмат разоў, вырашыўшы не здраджваць Мове хоць бы на паперы, гэтае адчуванне прысутнасці — узнікала.

І тое, што па-за сэнсамі, па-за словамі, кантэкстамі ды рознымі -ізмамі, не забітае філфакамі, мільёнамі знакаў грамафонскіх вычытак... Па-за тэхнікай верша- ці прозаскладання. Прысутнасць сутнаснага.

Знаёмае? Не? Ну, як не, дык не.

## У што я веру

Веру ў невыпадковасць выпадковых сустрэчаў. У магічныя лічбы, вербальныя знакі ды іншую падобную трасцу, якую зрэдзьчасу заўважаю, але не ўмею правільна разумець. Бо шляхі невыказныя.

Веру ў Шлях. У тое, што ўвесь гэты гармідар мае свой сэнс. (Вера ў кіраванасць светабудовы, падначаленасць агульнаму закону лучыць усе рэлігіі ды культы.) Ці, можа, гэта не столькі вера, колькі *адчуванне кіраванасці*? Адчуванне Шляху.

Веру ў душу з усім вынікальным (тонкае цела, біяполе, аўра, энергетычныя каналы). У тое, што мы — зіхоткія аб'екты ў касмічнай прасторы.

Цвёрда веру ў тое, што паралельныя прамыя скрыжоўваюцца.

Веру ў закон бумеранга й таму стараюся не шаптаць праклёнаў. Няхай плявузгаюць ды сурочаць іншыя. Я — толькі люстра.

Веру, што маё выкладанне мовы для студэнтаў адной тэхнічнай ВНУ не пройдзе дарма. Бачу, з якой прагай усмоктваюць яны новае. Наскае. Веру, што хоць у кімсьці яно прарасце!

Веру ў маладую паэзію. Адзін знаны літаратар, пабыўшы на прэзентацыі дзвюх дэбютных кнігаў паэзіі, у якой удзельнічалі з дзясятак несамотных

паэтаў (хоць пакуль і без кнігаў), пазайздросціў паэтычнаму роўню гэтага пакалення. Ды Бог з ім, з роўнем, — абы вучыліся на памылках папярэднікаў ды трымаліся адно аднога.

Веру, што нехта з пільных супрацоўнікаў *Камітэта добрых спраў*, які з прафесійнага абавязку слухае/чытае перадачу «У што я веру?», знойдзе мужнасць задаць гэтае пытанне сабе.

Веру ў дабраславенне айца Сергія, які вянчаў нас з жонкай і хрысціў нашую дачку. Ён гадуе шасцёх дзяцей у беларускай мове, служыць як у катэдральным саборы, гэтак і ў адным «сакрэтным» храме ў цэнтры Менска, дзе ладзіць багаслужбу па-беларуску.

Веру, што чалавек, які цяпер сядзіць у *позе Буды* (медычны тэрмін) ва ўлонні маёй жонкі, з'явіцца ў патрэбны час і абярэ для гэтага найлепшы шлях. Веру, што разам з дачкой, сямейнікамі ды сябрамі мужна, радасна і з *душэўным супакоем* прычакаем іх вяртання з радзільні.

*8 снежня 2006 г., «Радыё Свабода»*

# Канец словаў

Калі мне паведамілі[1] тэму гэтага тэксту, я трохі сумеўся, не разумеючы толкам, чаго ад мяне хочуць (трэба сказаць, і дасюль не ўпэўнены, ці зразумеў). Першая думка была проста напісаць: «Канец словаў» і паставіць кропку.

Нейкі час я хадзіў, тупа паўтараючы, варочаючы на языку гэтае словазлучэнне. Канец словаў. Словаў канец. Пра што тут казаць? З чаго пачынаць? З амбівалентнага «пачатак словаў» і логаснай тэорыі ўтварэння сусвету, багушэвічаўскага «Каб не ўмёрлі», каб прыйсці да высновы, што канец словаў ёсць канцом свету? Не, не тое. Тут яўна, беручы да ўвагі тэматыку гэтага амбіцыйнага праекту, чакаецца штосьці больш асабістае. І я вырашыў напісаць пра тое, калі словы сканчаюцца. У мяне. Пра тое, калі іх бракуе. Калі ўсёй іх полісемічнасці недастаткова, каб выказаць патрэбнае, сутнаснае. Калі яны папросту нічога не важаць. Словам, калі ім канец (каб не сказаць грубей).

Словаў не стае, калі крыўдзяць тыя, каго любіш. Тады ступар, камяк у горле... Ну, не, там, у глыбіні (чаго?) — шторм: словаў да халеры, яны жывуць сва-

[1] Эсэ напісанае для «вечнага» арт-календара «Канец словаў».

ім жыццём, мітусяцца, складаюцца ў нейкія фразы, спрабуючы вырвацца вонкі. Кепска, калі яны ўсё ж прабіваюць грэблю волі, калі пачынаюць выскокваць з рота, бы янычары. Кепска (каб не сказаць грубей)...

Словаў бракавала, калі прызнаваўся ў каханні. Калі спрабаваў пісаць пра восень. Ці пра зіму... Словы сканчаліся, калі хацеў выказаць шчырую падзяку, але разумеў, што збіваюся на банальнасці. Словаў бракуе, калі суразмоўца косназыкі ці задужа красамоўны...

Словаў бракуе вельмі часта. Ёсць, вядома, маўчанне, міміка, жэсты, якія, зрэшты, таксама словы. Ці дапаможны матэрыял для вербальнага мэсыджу. Аднойчы на бярэзінскім пляжы назіраў, як вялікая кампанія гуляе ў валейбол. Загарэлыя дужыя хлопцы. Праходзячы паўз іх, адчуў: штосьці не тое. Прыпыніўся, каб разабрацца, і зразумеў: яны ж не мацюкаюцца! Вось прыгожа разыграны мяч прыносіць камусьці ачко, а камусьці не прыносіць. І... нічога. Ніхто не крые слізкі пясок, маруднага партнёра, падступнага суперніка й г. д. Ці наадварот — не радуецца поспеху словамі, ад якіх вянуць кветкі. Спакойна й моўчкі падбіраецца мяч і разыгрываецца далей. Першае, што падумалася: напэўна, баптысты. Аказалася — глухія.

Вось жа, калі ад перапоўненасці пачуццямі сканчаюцца словы, яны зазвычай саступаюць месца мацюкам. Ці кулакам. Так, мацюкамі даўно размаўляе большая частка краіны, іх энергетыка і семантычная выбуховасць дэвальвуюцца. Але кожнае новае культурнае пакаленне вынаходзіць свой «наваяз». Бо паўторы *не торкаюць*. Таму: калі сканчаюцца словы, пачынаецца творчасць.

«Няпроста быць нешматслоўным» — занатавалася калісьці падчас першых спробаў сціла. Сапраўды. Хто ты такі, каб пасля *ўсяго,* напісанага да, спрабаваць

яшчэ штосьці дадаваць?.. Старажытныя рымляне — стваральнікі большасці існых афарызмаў — мусілі ўкладаць максімум сэнсу ў мінімум знакаў праз праблемы з матэрыялам для пісьма. Пісалі на воскавых дошчачках сцілусам: загостраным канцом палачкі выводзілі літары, тупым — карэктавалі, выпраўлялі. Лацінскі выраз «Saepe vertere stylum» (часцей паварочвай свой стыль) у сучаснай рэдакцыі гучацьме як «фільтруй базар». Сёння трэба быць лаканічным з адваротнае прычыны — каб пачулі/прачыталі... (Сімвалічна, што ў наш час сцілусам называецца прылада для працы з сэнсарнымі дысплэямі смартфонаў ці планшэтаў).

Варта ўвесці ветлівую форму падзякі чытачу за тое, што ахвяраваў свой бескаштоўны час на чытанне тваёй крэмзаніны. Накшталт: дзякуй, чытачу, што дайшоў да канца маіх словаў.

З іншага боку, самае сапраўднае пісалася *не-для-кагосьці*. Проста занатоўвалася — трызненні, ружовыя смаркачы, сны. Без адказаў ды адказнасці...

Калі словы сканчаюцца ад напльву пачуццяў, гэта нармалёва. Калі ж словаў бракуе, скажам, для верша, калі радкі пачынаюць броўнаўскі рух у тваёй галаве й немажліва засяродзіцца на чымсьці іншым — вось тады сапраўды гамон.

Запытаўшыся ў паэта, які верш з яго ўласнага творчага даробку ён лічыць лепшым, часта пачуем прыблізна наступнае: той, які яшчэ не напісаны. Ёсць і адваротны бок — незавершаныя вершы, вершы-недаробкі. Яны ляжаць у шуфлядах ці ў камп'ютарных тэчках і назаляюць. Вяртаешся да іх — бывае, праз гады — і не можаш даць сабе рады: спаліць/выдаліць ці нейк завяршыць і запосціць/надрукаваць. Мяне ўласныя незавершаныя вершы,

нават даведзеныя да ладу, не торгаюць. Верш мусіць пісацца «на раз» — то бок на адным пачуцці, у адным энегретычным струмені. Йімха.

Таму паэты, як правіла, істоты дысгарманічныя (не верце паэтам, якія кажуць пра сябе інакш). Сядзіш, глядзіш на хараство аснежанага саду. Аж не. Паліш. Нібыта вось яна, нірвана. Ан-не. Нейкая твая частачка «працуе» (метафарызуе, рыфмуе, шукае гукапіс і г. д.). Што праўда, па завяршэнні верша гармонія з'яўляецца. Ненадоўга.

І яшчэ колькі словаў пра творчы метад. Кажуць, што добры паэт піша нагамі, а храновы — дупай. Маецца наўвеце, верагодна, што за пісьмовым сталом адбываецца штучнае апладненне, тады як выхаджаныя, выкрачаныя вершы больш натуральныя. Шмат вершаў ці радкоў у мяне з'яўляецца за стырном. Так бы мовіць, у сядле. Нібыта й дупай, але й не за сталом, у руху. Мабыць, рэч у тым, што я папросту зазвычай перасоўваюся па горадзе на аўто. Ужо даўно не магу дазволіць сабе такое раскошы, як ўссесціся й з нуля пачаць *тварыць*. Сядаеш — каб занатаваць. Калі ўжо няможна нікуды падзецца ад словаў. Занатоўваеш, каб разгрузіць свядомасць. Лепшыя радкі ўзнікалі падчас шпацыраў з вазком, дзе мірна сапела-парохквала дзіцё, альбо ў часе медытатыўнага закалыхвання-люляння свайго немаўляці...

Я не ведаю, што такое канец словаў. Але я ўжо тройчы бачыў іх пачатак.

*Кастрычнік 2008 г.*

Аднойчы мы з дзецьмі гулялі ў менскім парку валуноў. Малодшая дачка папрасілася на рукі, бо стамілася. Я, вядома ж, падпарадкаваўся. Лежачы ў мяне на руках, яна глядзела ў неба, і мне вельмі захацелася яе цмокнуць. Але, калі я паспрабаваў гэта зрабіць, дачка спрытна ўхілілася, сказаўшы: «Тата, ты калючы!» Маўляў, спачатку ідзі пагаліся, а пасля ўжо з пацалункамі лезь. Яна працягвала ляжаць, гледзячы ў неба, і пасміхалася. «Толькі неба ты, тата, пацалаваў». То бок у такім гарызантальным стане ўсё, што было па-над ёю, было небам...

Цягам некалькіх гадоў я занатоўваў розныя перліны, фразачкі, пацешныя слоўцы сваіх дзяцей. Калісьці ў тады яшчэ жывым дзённіку (што вёўся пад нікам **viershnick** і пасля снежня 2010-га займеў назву **«Гісторыя цёмнага часу»**) асобныя з гэтых запісаў пасціліся пад тэгам гадун*ы* (такое слова прыдумалася для дзетак, калі яны яшчэ толькі-толькі пачыналі казаць свае першыя гукі). Там жа ж занатавалася наступнае: *«Бацькі-песімісты бачаць у сабе абслуговы персанал. Бацькі-аптымісты вераць, што "дзесьці, калісьці, наперадзе, можа быць" — усё вернецца. Бывае, што цягам дня даводзіцца пабыць і першым, і другім»*. Вось жа, вяртаецца, і значна раней, чым уяўлялася тады, калі здавалася, што не скончацца ніколі вірусы і памперсы. І дзякуй Богу!

Аўтар, які пачаў пісаць пра сваіх дзяцей у публічную прастору, дзеліцца радасцю і дапускае чытача ў сваю святая святых. Пры гэтым ён рызыкуе зрабіцца аб'ектам папрокаў у злоўжыванні мімімішнымі прыёмамі. Разумеючы тое, усё-ткі не магу не ўключыць гэты раздзел у сваю «Анаталогію».

Такім чынам, галоўныя дзейныя асобы гэтых нататкаў: Яна, Данік, Настуня (пераважна ў класічным узросце ад трох да пяці), матуля й татуля.

## ***2009***

**Перформанс**

Штовечар, перад сном, Яна ладзіць незвычайны перформанс — раскладае ўсіх сваіх пухнатых цацак-звяроў на падлозе, а пасля свеціць усім па чарзе ў «твары» ліхтарыкам.

**«Сачок»**

Ідзе рэклама «Аліварыі». Яна паказвае рукой на тэлевізар і кажа: «Татаў сачок».

● ● ●

Яна (*не жадаючы засынаць, гучна гаворыць*): «Будзь здарова! Будзь здарова!» І так шмат разоў. Залятаю ў дзіцячы пакой з палкім жаданнем даць па попе, бо Данік знізу ўжо спіць: «Што такое?» Яна: «Я хачу, каб ты сказаў мне “будзь здарова”. Я кашлянула»...

● ● ●

Калі Яне было 4 гады, яе непакоілі нервовыя цікі.

«Ты ведаеш, мне ўжо новы глазік паставілі. Маргучы — каторы мыргае — чужому хлопчыку аддалі...»

● ● ●

Яна: «Я так люблю кавун! Так люблю! Я яго ніколі ў жыцці не каштавала».

● ● ●

Жадаю малой дабранач і йду выключаць святло. Яна — з ложачка: «Тата, тата-а-а-а!» Я: «Што?» Яна: «Я люблю!» Я: «Што-о?! Што ты сказала? Паўтары? Каго ты любіш?» Маўчыць. «Ты тату любіш?..» Малая (*нараспеў*): «Мама, тата, я люблю неба, сонца і зямлю».

**Дачакаўся**

Дачакаўся сакрамэнтальнае фразы, якую, відаць, шмат хто з татаў чуў ад дачкі. Перадгісторыя: зранку, пасля службы ў барысаўскай царкве, захацеў набыць сабе асвечаны пярсцёнак. Прыехаўшы ў Менск, паказваю дачцэ: «Вось што я набыў. Калі Яна будзе сябе добра весці, і ёй набуду». Яна ўважліва разглядае пярсцёнак на безыменным пярсце левай рукі. А пасля пытаецца — паказваючы на залаты, што на правай: «А гэта што?» Тлумачу, што гэта заручальны пярсцёнак. Калі мы з мамай ажаніліся, яна мне такі падарыла, а, маўляў, калі Яна падрасце й выйдзе замуж, ёй такі таксама падораць.

І вось яна — фраза: «А я хачу з татам жаніцца». Кажу: «З татам нельга. З татамі ніхто не жэніцца. Вось вырасцеш — і знойдзеш сабе мужа». Пяцісекундная паўза. Яна: «Калі я вырасту, тата, я жанюся з табой, і ты мне падарыш калеча».

• • •

Яна, выходзячы з садка, знаходзіць, што пад дрэвамі мора каштанаў (быў моцны вецер). Ян*а*, нагадваючы вавёрку з «Ледніковага перыяду», пачынае набіраць іх. Спачатку поўнае вядзерца. Потым у рукі. Нашто, пытаюся, табе столькі? Яна здзіўлена: «Як нашто? Гэта ж мае запасы!»

**Коцік**

Яна збіраецца спаць. Прапаноўвае мне коціка ў выглядзе свайго кулачка. Я бяру «коціка» ў далоні й пачынаю пяшчотна пагладжваць, размаўляючы з ім. Яна адказвае. Ну, напр.: «Як цябе завуць, коцік?» — «Вася». — «Ты будзеш з Яначкай спаць». — «Да, мяў»... Урэшце Вася засынае. Кладзёмся спаць з «Васем». Акуратна залазіць (я дапамагаю) на другі

паверх ложка, каб не пабудзіць Васю. Яна гладзіць яго, бы жывога... Пасля прыходзіць Данік і пачынае шумець. Яна зверху: «Ну вось, вы майго коціка разбудзілі. Мяў, мяў...» Ну і г. д. Гэтая пакемонія з коцікам цягнецца ўжо тыдзень...

**Сказала Яна**

Яна ўзяла завядзёнку пасля нейкага свайго цверджання дадаваць: «сказала Яна». Напр.: «Хто ідзе гуляць?» — «Я — сказала Яна». Альбо Яна на запраўцы: «А які бензін мы будзем заліваць — чырвоны?» — «Не, зялёны». — «Ты правы, мой тата, сказала Яна».

• • •

Яна хоча дастаць канат з комплексу. Кажа: «Я абяцала пакатацца на канаце» — «Каму ты абяцала?» Некалькі секундаў роздуму: «Я, я... сабе абяцала».

• • •

Яна (3 гады) у прыбіральні. Толькі нядаўна памяняла гаршчок на дарослы клазет. «Ой, мне трэба памагчы». Я падаю ёй руку, яна грацыёзна саскоквае на падлогу й кажа: «Дзякуй табе, мой друг-памочнік!»

**Qui pro quo**

Сусед па кватэрным блоку бацькоў (прадстаўнік новае хвалі менскае ліміты, пажарнік, звычайна крыху нападпітку, з якім мы даўно не сустракаліся, а ў яго ўжо павырасталі сыны-дубкі, якіх я памятаю яшчэ жалудамі), убачыўшы, што вылажу з машыны (каб адшпіліць Яну й Даніка), з павагай у голасе і ўхвальным кіўком у бок аўто: «Што, тваё?..» Я, упэўнены, што гаворка пра дзетак: «Маё. А чыё ж?..» Заходзім у пад’езд, ля ліфта ён зноў пытаецца (ужо

без пашаны), указваючы на дзетак: «Што, твае?» Я (не адразу зразумеўшы тое кві-про-кво): «Мае. А чые ж?..»

• • •

Яна задуменна сядзіць за сталом. Проста сядзіць, нічога не робіць. Штосьці абдумвае. Я прашу: «Яна! Хадзем чысціць зубы». Нуль рэакцыі. Паўтараю просьбу. Нуль рэакцыі. Я пачынаю злаваць: «Добра. Цяпер, калі Яна будзе пра штосьці прасіць, я таксама буду маўчаць у адказ». Яна спалохана: «Тата, добра-добра. Паўтары, пра што ты спытаў?..»

Варыянт: «Яна, колькі разоў цябе прасіць?..» Яна загінае пальцы: «Чатыры». Я без інтанацыі: «Яна, хадзем чысціць зубы» — чатыры разы. Пасля чацвёртага разу Яна спакойна ўстае ды йдзе выконваць просьбу...

**Мужык**

Яна, засынаючы (*спалоханым голасам*): «Мама, мама! Дзе мужык?..» Мама ў жаху, думаючы, што дачцэ ізноў штосьці прымроілася ў цемры: «Які мужык?» — «Ну тата, наш мужык...»

• • •

Данік (1,5 года) перад сном (*традыцыйна*): «Місі-місі? Га-га-га...»

**Фікнэс і топлес**

Яна пасля садка: «Тата, запішыце мяне на фікнэс! Праўда, туды дзевачак не бяруць, але вы запішыце...»

Яна на гуртку народных спеваў развучвае новую песню, якую гучна спявае дома: «Раз, два, тры, чатыры, мяне грамаце вучылі, не чытаць, не пісаць, толькі топлесам скакаць». І ве-ельмі не адразу разумеем, чаму насамрэч вучылі гераіню — поплясы скакаць.

• • •

Яна, калі маці кажа, каб даела кашу: «Не магу. У мяне засталася толькі кругленькая дзірачка ў жывоціку — для цукеркі-гарошка»...

**Д. н. рыбы**

Сёння зранку дзеці (Яне два з паловай, Даніку толькі годзік споўніўся) святкавалі дзень народзінаў гумовай рыбы. Засервіравалі *паляну*: дасталі пластмасавыя талерачкі, лыжачкі, «торт» са свечкамі, зрабілі «фаерверк»... А пасля Яна кажа: «Данік! А давай яе з'ядзім!..»

• • •

Таня выгнала малых з кухні, каб не заміналі гатаваць. Яна — да Даніка: «І што жа нам цяпер есці? Алоўкі, машыны, шафу? Пойдзем, з'ядзім шафу...»

**Восень 2010**

Яна: «Ой, каштанчык! Я буду з ім спаць. Гэта каштан-велікан. Я яго люблю» Я: «Любіш каштан?» Яна (*павучальна-сур'ёзным тонам*): «Да, гэта вельмі складанае пачуццё!»

• • •

Я: «Добрай ночы, рабяткі».
«Мы не крэветкі!»

**Смак ката**

Яна не хоча есці яблычнае пюрэ. Кажу: «Пакаштуй, якая смаката!» — «Што, пюрэ з коцікам? О, люблю!..»

**Жахалка**

Яна працягвае Даніку зорачку з мішуры: «Данік, хочаш, я падару табе чароўную зорачку?» — «Навошта?» — «Ну, калі штосьці дрэннае здарыцца, яна

табе паможа. На ўсякі выпадак». — «Нічога дрэннага са мной не здарыцца». Яна: «Ну вось уяві, — думае, — ідзеш ты па лесе, адзін, без бацькоў, у цемры і... заблукаў. А скажаш: зорачка-зорачка, пажамы мне знайсці дарожку дамоў — і яна табе паможа...»

• • •

Данік (2 гады, трымаецца за вока): «Яна, ты мне ў вока трапіла!» Яна: «Нічога страшнага». Данік (*разгублена*): «Калі хочаш, я табе гэта дарую».

**«Падарунак»**

Я быў ад'язджаў у Менск з Барысава на тры п*а*ры. Вярнуўся позна, высмактаны тэхнарамі й дарогай. Данік сустракае ў дзвярах традыцыйным: «Тата! Ты што прывёз?» А ў мяне ў руках — толькі пакецік з мылам і ручніком (у палітэхаўскіх сталоўках ні першага, ні другога няма, а эпідэмія грыпуса ў самым разгары). Данік зазірае ў пакет і бачыць там чырвоную мыльнічку. «Тата прывёз нам мыла! Ура! Тата, ты маладзец, ты сапраўдны друг», і гэтак далей у такім родзе. Увесь вечар мне дзячыў за такі цудоўны падарунак...

• • •

Яна: «Мама, Данік на мяне наляцеў. Як шалёная лягушка (*паказвае як*). Давай яго пакінем у бабы Наты?»

• • •

Яна некалькі дзён у бабы Наты (хварэе). Данік, кладучыся спаць увечары, трагічным голасам нараспеў: «Мне сумна без мамы і таты. Я зноў адзін у цемнаце».

## ***2011***

• • •

Данік (*на гаршку, куды ён пагадзіўся сесці за цукерку з умовай станоўчага выніку*): «Я, канечна, не хацеў сабе такіх маму і тату». Мы: «А якіх жа ты хацеў?» — «Такіх, каб не прапаноўвала мне какаць».

• • •

Яна, забягаючы на кухню (за ёй Данік): «Дайце мне цукерку, а то я ад вас не адстану!»

• • •

Данік: «Яна, хадзем гуляць у дочкі-мацеры! Я буду мацерам». Яна: «Не, я буду мацерам. Таму што ў мяне чароўны посах».

• • •

Мы: «Яна, вас жа ў садзіку вучаць чытаць і пісаць?» Яна: «Не. Нас у садзіку толькі прымушаюць іграць».

• • •

У садку ў Данькавай групе «мясцовыя» дзяўчаты размаўляюць з Янай. Яна: «Я узе ў групе для бальшуноў...» Потым знаёмяцца. Адна дзяўчынка. «Мяне завуць Яна». Яна: «І мяне Яна. Толькі любімая»

**Чужынец**

Я пагаліўся. Яна: «А што — у цябе чолка вырасце вось так (*паказвае*), да? А ў мамы вось так (*паказвае*)?» — «Чаму ты так вырашыла?» — «Таму што мужчына павінен заўсёды ўсё бачыць. Каб ведаць, дзе ўраг. Ну, каб абараніць сваіх жанчын». Далей ідзе

пантаміма з дапамогай кулачкоў: «Вот нападае на нас чужынец, а ты яму — на, палучы!..»

• • •

Едзем з Данікам да лагапеда. Данік глядзіцца ў люстэрка задняга віду: «Чаму я бачу машыны, каторыя едуць ззаду?» Я: «А ты хочаш бачыць сябе?» Данік: «Не, я з сабой не дружу». — «Чаму? Ты што — сабе не падабаешся?» — «Да». — «Чаму гэта?» «Таму што я... кудравы». Я пачынаю запэўніваць яго, што кучаравасць — гэта класна, шмат хто марыць быць кучаравым. «Добра. А на каго ты хочаш быць падобным?» Маўчыць. «Напрыклад, на Арыстарха — не хочаш?» — «Арыстарх таксама часам бывае кудравым». — «Ну, а на каго ты хочаш быць падобным?» Данік (*цалкам сур'ёзна і не раздумваючы*): «На Яну»...

• • •

Данік, гледзячы ў вакно ў садку восеньскім надвячоркам: «Мокрая ноч».

• • •

Я: «Данік, калі ж ты ўжо пойдзеш у садзік?!» (Данік тыдзень сімулюе). Д.: «Тата! Ну адкуль жа я ведаю, у колькі выздараўлю?»

• • •

Я: «Яна, адзявайся скарэй, на службу спознімся» Яна: «На якую?» — «На царкоўную». — «Што, у цырк?» — «Не, у царкву». — «А, царкоўная падобна на цырковую».

**Плошча Таты**

Забіраю Яну з садка (загадзя патэлефанаваўшы выхавацельцы, каб адаслала апранацца). Дачка, убачыўшы мяне ў раздзявальні: «О, гэта мой тата!

Мой тата — беларускі пісьменнік! Ён напісаў ужо тры, не чатыры кнігі...» У раздзявальні яшчэ двое бацькоў. Я, жадаючы, праваліцца скрозь зямлю: «Яна, перастань. Замаўчы». Нейкая матуля: «Ну навошта ж маўчаць? Трэба расказваць усім, чым ганарышся». А Яна сабе працягвае, звяртаючыся да хлопчыка з групы, задзірлівым голасам: «А твой тата піша вершы? Не? А мой піша!..» І далей: «Я хачу, каб у гонар таты назвалі плошчу — плошчай Таты!» Не стаў тлумачыць, што тое робіцца, як правіла, пасмяротна.

## ***2012***

• • •

Данік, вісячы на лесвіцы, просіць Яну падкласці яму мат. І далей: «Калі я ўпаду, я зусім буду шкілетам».

• • •

Данік (*трагічна*): «Мне 5, Яне 6. Што, Яна першая паляціць на воблачка, і я буду жыць адзін? Без сястры?!»

• • •

Яна: «Мне здаецца, што ўсе мы жывём у кнізе, якую хтосьці чытае...»

• • •

Данік: «Тата, а ты помніш сваё дзяцінства?» — «Ну, так». — «А ў цябе твар змяніўся?..»

• • •

Яна: «Я так сумую па моры».
Насця: «А я па дачы».
Данік: «А я па нашым будучым доме...»

• • •

Данік: «Мама, ты зараз глядзіш на мяне, быццам не любіш альбо быццам ад мяне дрэнна пахне».

**Пытаннечкі**

«Якая лічба апошняя?»
«Што кушаюць у Раі?»
«А ў Раі спяць?»
«Хто стварыў Божаньку?»
«А ў Божанькі ёсць крыжык?»
«А што вышэй — сонца ці Бог?» (На гэта Яна не задумваючыся адказвае: ты што, канешне, Бог вышэй.)

Падобнымі пытаннямі Данік засып*а*ў нас штодня, калі яму было пяць.

**«Наш дом»**

Забіралі з Данікам жонку з Бараўлянаў (яна там у лякарні на стажыроўцы). Праязджаем міма цесцевага дома. А там — будоўля, катлаваны, краны... Данік кажа: «Эх, шкада, што наш дзед Саша ўрачом працуе, а не на пад'ёмным кране». Я: «Чаму? Хочаш на кран залезці?» Данік (*яшчэ скрушней уздыхнуўшы*): «Не. Ён бы тады нам наш дом пабудаваў».

**Лекі**

Бабуля раскладае на ложку пакецікі з лекамі. Падыходзіць Яна (7 год). Бабуля: «Вось гэныя ад нырак, гэныя ад печані, гэныя ад галавы...»

Яна: «Што, ліквідуюць усё гэта?»

**Пудзіла**

Едзем з дачкой па трасе, праязджаем міма фігуры кардоннага дэпээсніка на фоне яго кардоннай машыны. Яна: «Тата, гэта што — пудзіла міліцыянера?» Ну, у прынцыпе, так. :)

## ***2015***

• • •

Настуня: «Цукерку можна?» — «Можна». — «Тады... чаго ж мы чакаем?!»

• • •

Пайшлі ў краму па піцу. Кажу: «Давай купім кефіру». Настуня (на ўвесь аддзел): «Кефір? З піцай?! Арыгінальна, тата».

• • •

Хтосьці таргануў стол з акварыумам. Настуня: «Рыбы думаюць, што пачалося трасенне... Водатрасенне!..»

• • •

Падыходзім да дзіцячай пляцоўкі. Настуня, убачыўшы дзвюх дзяўчатак: «І хто гэтак там? Гэта незнаёмыя дзеці. (*Далей страшным голасам.*) Зараз яны ператворацца ў... знаёмых».

• • •

Яна ў віленскай «Ікеі», трымаючы ў адной руцэ марозіва, а ў другой сок: «Як жа добра! Я проста сама сабе зайздрошчу!»

*To be continued...*

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Івашчанка** Анатоль Сяргеевіч

**Анаталогія**

*Апавяданні, запісы, эсэ*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Тацяна Сушчэўская*
Карэктар *Алена Спрытніч*
Мастак *Дзмітры Шыла*
Вёрстка *Fun Thomas*

Падпісана да друку 30.12.2015.
Фармат 84х108/32. Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 6,09. Ул.-выд. арк. 3,65.
Наклад 300 асобнікаў. Заказ 551.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.